*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА


Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 49 (209) 7 снежня 1994 г. Кошт — 40 рублёў



ЯК УЗНІКЛА ДЗЯРЖАЎНАЯ МОВА. Стар. 2-3.

НА ПАГОСТ ДА ЗАБЫТЫХ СТАБРОЎСКІХ. Стар. 4.


## ПОСТУП ТЫДНЯ



❍ **ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ВЫСТУПІЎ НА СЕСІІ АГУЛЬНАГА СХОДУ АКАДЭМІІ НАВУК РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** Прэзідэнт запэўніў прысутных, што ўрад знойдзе рэзервы для павелічэння бюджэтнага фінансавання Акадэміі навук ужо ў 1995 годзе. На жаль, выступленне Прэзідэнта нашай краіны і выступленне прэзідэнта АН былі зроблены на мове суседняй дзяржавы — рускай.

❍ ***ПАСТАНОВАЙ УРАДА СТВОРАНА** Камісія Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь па пытаннях навукова-тэхнічнага прагрэсу. Зацверджаны яе персанальны састаў. Старшынёй камісіі назначаны намеснік прэм'ер-міністра Віктар Ганчар.*

❍ **СПОЎНІЛАСЯ 74 ГАДЫ ПАДЗЕЯМ ЛІСТАПАДА-СНЕЖНЯ 1920 ГОДА,** калі слуцкія сяляне, маючы на мэце абарону незалежнасці Беларусі ад пасягненняў бальшавіцкай Расіі і Польшчы, паднялі ўзброенае паўстанне. У вёсцы Грознава, дзе быў створаны адзін з палкоў паўстанцаў, прадстаўнікі БНФ устанавілі памятны крыж.

❍ ***1 СНЕЖНЯ Ў ПЕРАПЫНКУ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА АДБЫЛАСЯ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ ЧЛЕНАЎ "ЦЕНЯВОГА" КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ АПАЗІЦЫІ БНФ.** У час гутаркі Станіслаў Гусак — адзін з аўтараў ідэі стварэння Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара выказаў меркаванне, што пошук турэцкіх шпіёнаў, магчыма, вядзецца, каб сапсаваць узаемаадносіны Беларусі з Турцыяй і перашкодзіць стварэнню нафтавага калектара.*

❍ **28 ЛІСТАПАДА Ў ШКЛОВЕ БЫЛА СТВОРАНА РАЁННАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф.СКАРЫНЫ.** На канферэнцыю была запрошана жонка Прэзідэнта нашай краіны Галіна Лукашэнка, і яна пагадзілася ўдзельнічаць. Аднак па невядомых прычынах на сходзе яе не было. Шклоўскую арганізацыю ТБМ узначаліла Вольга Паўлава — карэспандэнт раённай газеты «Ударны фронт».

❍ ***УБРЭСЦЕ ЎБАЧЫЎ СВЕТ ПЕРШЫ НУМАР ГАЗЕТЫ «ШЛЯХ».** Яна выходзіць па-беларуску. А ў Менску супрацоўнікі газеты «Добры вечар» выпусцілі інфармацыйна-рэкламны штотыднёвік «Сталіца». На жаль, не абышлося ў ім без расійскамоўных матэрыялаў.*

❍ **У БРЭСЦЕ ПРАЙШЛА НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ, ПРЫСВЕЧАНАЯ ПАМЯЦІ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ.** У вобласці створаны фонд Касцюшкі для ўпарадкавання мясцін, якія звязаны з ягоным імем.

*Жыццё Таварыства*

# МЫ НЕ ПРОСІМ, МЫ — ПАТРАБУЕМ!

*(З пасяджэння Рады ТБМ імя Ф.Скарыны)*

18 лістапада ў сталічным Доме літаратара адбылося чарговае пасяджэнне Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф.Скарыны, якое вёў старшыня Таварыства, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. На парадак дня выносіліся пытанні: ТБМ і дзяржаўная моўная палітыка; аб задачах Таварыства ў перыяд падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет; рознае.

У кароткім уступным слове Ніл Гілевіч звярнуў увагу на тое, што хоць ТБМ і з'яўляецца грамадскай культурна-асветніцкай арганізацыяй, але яно не можа быць абыякавым да важных палітычных перамен на Беларусі апошняга часу, бо гэтыя перамены аказваюць вялікі ўплыў на агульны стан нашай культуры, на моўную сітуацыю ў дзяржаве. Калі раней, — адзначыў прамоўца, — з боку ўлад назіралася пасіўнае супрацьдзеянне намаганням ТБМ істотна пашырыць ужыванне роднага слова, адрадзіць самабытную нацыянальную культуру беларусаў, то шматлікія факты сведчаць, што цяпер пачаўся адкрыты наступ на важкія завалёвы ў згаданых сферах, дасягнутыя дэмакратычнымі сіламі. Так, некаторыя выказванні Прэзідэнта па культурна-моўных пытаннях былі на месцы імгненна падхоплены нашымі нядобразычліўцамі. Пад уздзеяннем гэтага і іншых фактараў Вярхоўны Савет нават пайшоў на стварэнне спецыяльнай камісіі па вывучэнні пытання аб дзяржаўнай сімволіцы Рэспублікі Беларусь. Таму робіцца відавочным, што наперадзе — нялёгкая паласа.

Далей старшыня ТБМ падкрэсліў: у сённяшніх няпростых умовах руплівцы роднага слова і нацыянальнага Адраджэння ні ў якім разе не павінны выступаць у ролі нейкіх несамавітых прасіцеляў: дзейнічае Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і Закон аб мовах, якія адназначна надаюць беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай. Таму мы не просім, а патрабуем, каб згаданыя заканадаўчыя акты паўсюдна выконваліся!

На заканчэнне прамоўца прапанаваў першыя пытанні парадку дня разглядаць разам, а таксама кааптаваць у склад Рэспубліканскай Рады ТБМ пісьменніка Анатоля Бароўскага, нядаўна абранага старшынёй Гомельскай абласной рады Таварыства (пастановы аднагалосна прымаюцца).

Намеснік старшыні ТБМ Яўген Цумараў спыніўся на тым, што ў адпаведнасці з новым Законам аб выбарах Таварыства ўжо не мае права вылучаць сваіх кандыдатаў у дэпутаты. Таму задача нашых актывістаў — падтрымліваць у барацьбе за дэпутацкія мандаты цвёрдых прыхільнікаў беларускага нацыянальнага Адраджэння на сваіх месцах працы ці жыхарства. ТБМ, не з'яўляючыся палітычнай партыяй, адзначыў ён, можа і абавязана, працуючы ў рамках Канстытуцыі, прыняць дзейсны ўдзел у будучых выбарах.

У абмеркаванні аб'яднаных пытанняў парадку дня выступілі 23 чалавекі: Мікола Савіцкі (Менск), Язэп Стапановіч (Менск), Вадзім Болбас (Светлагорск), Валерый Костка (Маладзечна), Алесь Міткавец (Гомель), Валянціна Башлакова (Гомель), Анатоль Шастаковіч (Менск), Васіль Дубейка (Баранавічы), Аляксей Пяткевіч (Гродна), Міхась Булавацкі (Магілёў), Святлана Вадап'ян (Круглае), Андрэй Казловіч (Кобрын), Віктар Навуменка (Менск), Генадзь Сакалоў-Кубай, Алесь Шамак, Мікола Лавіцкі, Барыс Сачанка (усе — Менск), Мікола Хадоркін (Гомель), Аляксей Глушко (Менск), Леанід Лыч (Менск), Станіслаў Суднік (Ліда), Леанід Цыганкоў і Алесь Чэчат (Менск). Прамоўцы закранулі розныя бакі дзейнасці арганізацый Таварыства на сучасным этапе, унеслі свае прапановы па ўдасканальванню гэтай работы на перспектыву, зрабілі заўвагі і дапаўненні да праектаў дакументаў, падрыхтаваных Сакратарыятам на разгляд Рэспубліканскай Рады.

Сябры Рады аднагалосна зацвердзілі Пастанову па першых пытаннях парадку дня, прынялі «Зварот да грамадзян Беларусі» (будуць надрукаваны ў «Нашым слове»).

Рада абрала Яўгена Цумарава першым намеснікам старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны, вырашыла правесці чарговы з'езд Таварыства пасля выбараў у Вярхоўны Савет нашай краіны. Затым была разгледжана заява журналістаў газеты «Наша слова», дзе галоўнае — хадайніцтва аб неабходнасці забеспячэння рэдакцыі сучасным камп'ютарным абсталяваннем і іншай аргтэхнікай, патрэбнай для іх прафесійнай дзейнасці, а таксама просьба творчага калектыву надаць яму статус сузаснавальніка газеты. З інфармацыяй выступіў галоўны рэдактар «Нашага слова» Эрнэст Ялугін. Ён акцэнтаваў увагу на тым, што рэдакцыя па-ранейшаму дагэтуль не мае ніякай уласнай тэхнічнай базы. Апошняе, безумоўна, перашкаджае паўнейвыкарыстоўваць творчы патэнцыял супрацоўнікаў, а значыць, зрабіць газету больш цікавай. Рэдактар адзначыў таксама, што журналісцкі калектыў фактычна бяспраўны і ёсць патрэба зрабіць яго сузаснавальнікам газеты, што і адзначана ў пастанове журналісцкага калектыву. На думку галоўнага рэдактара, адным з варыянтаў выйсця са становішча, спалучанага з няпэўнасцю дзяржаўнага фінансавання ўсяго беларускамоўнага друку, магло б стаць аб'яднанне «Нашага слова» з газетай «Культура», дзе маецца добрая сучасная тэхнічная база і такім чынам узмоцненым калектывам выдаваць газету культуралагічна-моўнага зместу на 16-24 палосах, што было б толькі на карысць чытачоў і беларускага Адраджэння.

У абмеркаванні слова бралі некалькі сяброў Рады. Без галасавання па прапанове Ніла Гілевіча вырашылі, што адзіным заснавальнікам «Нашага слова» застанецца ТБМ. У прынятай пастанове выказана падзяка калектыву рэдакцыі, які, працуючы ў вельмі цяжкіх умовах, выдае змястоўную, з уласным абліччам газету. Сакратарыяту Таварыства даручана ў бліжэйшы час забяспечыць рэдакцыю самым неабходным абсталяваннем (камп'ютарным выдавецкім комплексам і інш.) і ўвогуле палепшыць умовы працы яе супрацоўнікаў.

**Наш карэспандэнт.**

**Ад рэдакцыі.** Мусім заўважыць, што ў сваім выступленні адносна рэдакцыйнай маёмасці спадар Я.Цумараў сказаў, быццам ад кіраўніцтва ТБМ рэдакцыя атрымала дыктафон і рэдактар газеты недакладна на гэты конт праінфармаваў Рэспубліканскую Раду. Абмеркаваўшы ў рэдакцыі гэтую акалічнасць, высветлена, што чамусьці памыляецца сп.Цумараў. Дыктафон, які ён, відаць, палічыў за ўласнасць сакратарыята, на самай справе з'яўляецца ўласнасцю сп.Л.Баршчэўскай. Яшчэ адзін дыктафон рэдакцыя набыла на ахвяраванні сваіх чытачоў, а не на сродкі заснавальніка. Ад заснавальніка рэдакцыя мае трохі мэблі і маральную падтрымку.

Здзіўляе, што старшынствуючы на пасяджэнні Рады не паставіў на галасаванне пытанне аб стварэнні аб'яднанай узбуйненай газеты. Таму добра было б, каб наконт гэтага выказаліся самі падпісчыкі і сябры Таварыства беларускай мовы на месцах.


ЦЯПЕР Я ЖЫВУ Ў СВАЁЙ КВАТЭРЫ, ЯК НА КАЎКАЗЕ. Стар. 3.

*З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ*

## Хачу выпісваць вашу газету!

Піша вам чытач з г.Александрыі (Украіна). Мне прыйшлі два лісты з Менска і Магілёва, і вось дзіва: добрыя людзі напісалі, што даведаліся пра мяне праз вашу газету. Вельмі дзякую за гэта.

Скажыце, як я магу выпісаць вашу газету? Справа ў тым, што ў нас на пошце можна выпісаць толькі «Звязду», але мае любімыя газеты «Наша слова» і «Свабода».

Ваша газета цудоўна «пабудавана». На першай старонцы «Поступ тыдня», вельмі патрэбная калонка! Далей усё добра, а на апошняй старонцы — разнастайная цікавая інфармацыя для «адпачынку» душы. Але мне думаецца, што патрэбны звесткі пра кнігі — як пра новыя (каб ведаць, што новае выйшла ў свет), так і пра старыя, каб ведаць сваю гісторыю (дзе яны, у якім стане). Не пашкодзіць артыкул і пра беларускую архітэктуру — што і дзе рэстаўрыруецца, у якім стане. Вось прыклад: у «Архітэктуры Беларусі» слонімскі Андрэеўскі касцёл у дрэнным стане, але ж яго ўжо адрэстаўрыравалі. А колькі такіх прыкладаў!

**Алесь ТРАФІМЕНКА.**
Украіна.

**Ад рэдакцыі:** Шаноўны спадар Алесь! Дзякуем за падтрымку нашай газеты і парады, якія абавязкова пастараемся выкарыстаць.

Што да падпіскі на «Наша слова» за межамі Беларусі, тут, канешне, сітуацыя прыкрая. Калі нашай газеты не будзе ў каталогу, то першае, што неабходна зрабіць, гэта звярнуцца ў беларускае пасольства. Са свайго боку мы таксама будзем звяртацца ў Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, каб там дапамаглі нашым суродзічам атрымліваць беларускамоўныя выданні.

## *У эфіры — мемарыяльная радыёстанцыя*

Як вядома, сёлета адзначаецца двухсотгоддзе вызваленчага паўстання 1794 года на Беларусі пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Група радыёаматараў Берасцейшчыны вырашыла адзначыць згаданае свята ў гісторыі Бацькаўшчыны не зусім звычайна. З 24 красавіка (дзень вызвалення паўстанцамі Вільні) на кароткіх хвалях распачала работу мемарыяльная аматарская радыёстанцыя імя Касцюшкі. Гэта падзея выклікала велізарную цікавасць у радыёаматараў свету. Толькі за першы месяц пасля свайго ўзнікнення радыёстанцыя ўсталявала некалькі тысяч кантактаў у эфіры з аматарамі больш чым 100 краін свету з усіх кантынентаў, у некаторых з іх дагэтуль нават не ведалі аб існаванні незалежнай Рэспублікі Беларусь. Таму там з асаблівай цікавасцю пазнаёміліся з нашай гісторыяй і нацыянальнай культурай, з інтарэсам сустрэлі і звесткі аб нашых славутых земляках — сусветна вядомых людзях.

Дадам, што станцыя выходзіла ў эфір з г.Івацэвічы, якія знаходзяцца недалёка ад месца нараджэння Т.Касцюшкі. Да слова, упершыню заснаванне новай радыёстанцыі адбылося без афіцыйных дырэктыў «зверху», без падтрымкі ўладных структур. Значную фінансавую падтрымку радыёаматарам-энтузіястам аказала камерцыйная фірма «Івацэвічы» (кіраўнік У.Кудзінаў). Нам абяцалі падтрымку і іншыя фірмы. Напрыклад, вядомая ў Брэсце «Акіян-Поліш», якая валодае пунктамі па абмену валюты і мае сталыя кантакты з нашым заходнім суседам. Але далей размоў тут, на жаль, не пайшло. Вось вам і славуты польскі патрыятызм!

РОЎНАСЬЦЬ ВОЛЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

1794-1994
SPECIAL EVENT STATION
EV3TK/200



200 years since the 1794 liberation uprising led by Tadeush Kosciuszko in Belarus, Poland and Lithuania. General Kosciuszko, a national hero of Belarus, USA and Poland, was born in 1746 in estate of Marachovschina (12 km to the North from Ivatsevichi).

**Уладзімір РЫБАК, радыёінжынер.**
г.Брэст.

*Вестkі з Латвіі*

## «Беларуская восень» у Краславе

Прадстаўнікі Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе і культурна-асветніцкага таварыства «Уздым» беларусаў Даўгаўпілса нядаўна пабывалі ў Краславе (цэнтр раёна Латвіі, які граніčыць з Даўгаўпілскім раёнам і Верхнядзвінскім раёнам Беларусі) па запрашэнні дырэктара 3-й сярэдняй школы Аркадзя Флейшмана. У гэтай школе клапоцяцца аб тым, каб дзеці розных нацыянальнасцей ведалі сваю родную мову, гісторыю і культуру сваіх продкаў. Таму тут аказалася магчымым правесці і беларускае фальклорнае свята пад назвай «Беларуская восень». Было радасна бачыць дзяцей у беларускіх нацыянальных касцюмах, якія чыталі вершы Янкі Купалы, разыгрывалі свята «Дзяды» і гумарыстычную сцэнку «Жаравель і чапля», выконвалі беларускія народныя песні і танцы. Прыемна здзівілі некаторыя моманты рэжысуры. Напрыклад, каб гледачам весялей было глядзець танец «Бульба», усіх пачаставалі варанай бульбай «у мундзірах». Калі на заканчэнне канцэрта прагучала песня «Бывайце здаровы», са словамі прывітання і ўдзячнасці да прысутных звярнуліся саветнік Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Важнік і сябры рады «Уздыму» Вольга Паўловіч і аўтар гэтых радкоў, што падарылі школе беларускія кнігі і сувеніры. Шчырае дзякуй было сказана дырэктару школы А.Флейшману, настаўніцы Святлане Стэльмачонак, якая вядзе ў гэтай школе беларускі факультатыў, і мясцовым уладам, што падтрымліваюць гэта добрае пачынанне. Старшыня гарадской управы Яніс Трачум, старшыня раённай управы Гунар Упеніекс і старшыня школьнай управы Уладзіслаў Скершан былі сярод удзячных гледачоў. Як стала вядома, аказаў тут сваю падтрымку і Латгальскі цэнтр мультынацыянальных культур. Яго старшыня Артур Прыедытыс быў таксама ў ліку запрошаных на беларускае фальклорнае свята. У сяброўскай гутарцы з імі беларускія гасцей з Даўгаўпілса дасягнута дамоўленасць аб далейшым узаемадзеянні.

Можна спадзявацца, што ў хуткім часе і іншыя школы Латгаліі (край у Латвіі), у тым ліку і Даўгаўпілса, возьмуць гэты добры прыклад.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**
г.Даўгаўпілс.

*У ГАЗЕТАХ*

## Абітурыент-94: анфас і профіль

Пад такой рубрыкай «Настаўніцкая газета» (№ 89) змясціла артыкул прафесара Веры Ляшук і дацэнта Вольгі Пераход (Брэсцкі педагагічны інстытут), у якім аўтары, аналізуючы вынікі сёлетніх уступных экзаменаў у сваёй ВНУ, прыйшлі да высновы, што выпускнікі нашых школ ужо сёння бачаць сваю краіну суверэннай, а дзяржаўнай мовай — толькі беларускую.

У публікацыі падкрэслена, што ў бягучым годзе ўступныя экзамены — пісьмова альбо вусна — па беларускай мове і літаратуры (у якасці прадметаў профільных ці няпрофільных) здавалі амаль усе абітурыенты. Выключэнне складалі толькі тыя з іх, хто паступаў на факультэт педагогікі пачатковага навучання — пісалі рускую дыктоўку. Але аўтары лічаць, што і для згаданай спецыяльнасці больш мэтазгодна было б праводзіць пісьмовы экзамен па роднай мове, бо колькасць пачатковых беларускамоўных школ у краіне зараз у працэнтных адносінах адпавядае колькасці карэннага насельніцтва. Якія ж вынікі апошніх уступных экзаменаў?

Адказваючы на пытанне, В.Ляшук і В.Пераход адзначаюць, што сёння самымі прэстыжнымі накірункамі будучай педагагічнай дзейнасці аказаліся тыя, дзе беларуская мова і літаратура — спецыяльнасць. Пра гэта пераканаўча сведчыць колькасць заяў, пададзеных выпускнікамі школ на розныя факультэты. Калі ў цэлым па пединстытуту конкурс заяў абітурыентаў складаў 2,5 чалавека на адно месца, то на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры на 60 вакансій прэтэндавала 243 абітурыенты, з якіх 61 — медалісты. Аўтары артыкула называюць таксама і наступны важкі аргумент на карысць таго, што цяперашняя моладзь аддае прыкметную перавагу роднай мове. На спецыяльнасць «англійская мова і літаратура» з дадатковай спецыялізацыяй «беларуская мова і літаратура» філалагічнага факультэта інстытута сёлета было пададзена амаль удвая больш заяў, чым на тую ж самую спецыяльнасць, але з дадатковай «руская мова і літаратура».

Згаданыя выкладчыкі Брэсцкага педагагічнага інстытута спыняюцца таксама на агульных хібах значнай часткі нядаўніх абітурыентаў, якія выявіліся на ўступных экзаменах па роднай мове і літаратуры. Так, практыка паказала, што выпускнікі школ Брэсцкай вобласці слаба ведаюць жыццёвыя і творчыя біяграфіі славутых беларускіх пісьменнікаў, вывучэнне твораў якіх прадугледжана дзеючай школьнай праграмай. Недастаткова валодаюць яны і агульнымі тэмамі, прысвечанымі нацыянальнаму літаратурнаму працэсу першай паловы мінулага стагоддзя, літаратуры парэформеннага часу і іншых перыядаў.

Аўтары публікацыі падкрэсліваюць: вынікі ўступных экзаменаў паказалі, што мова значнай часткі выпускнікоў школ застаецца, на жаль, беднай, лексічна і фразеалагічна абмежаванай, мала выразнай, засмечанай штампамі. Такім настаўнікам трэба яшчэ шмат працаваць, каб падрыхтоўка выпускнікоў па роднай літаратуры адпавядала патрабаванням школьнай праграмы. Тое ж самае датычыцца і роднай мовы, бо выпускнікі слаба валодаюць граматычнымі правіламі (асабліва «кульгаюць» арфаграфія і пунктуацыя). Так, напрыклад, найбольш тыповымі арфаграфічнымі памылкамі на сёлетніх уступных экзаменах у пісьмовых работах па беларускай мове, як, дарэчы, і ў мінулыя гады, аказалася няправільнае ўжыванне часціц «не», «ня», «ні», складаных слоў (прыметнікаў), вялікай літары, некаторых спалучэнняў зычных гукаў і інш.

Але, не зважаючы на недахопы школьнай філалагічнай падрыхтоўкі нядаўніх абітурыентаў, В.Ляшук і В.Пераход адзначаюць, што сёлетнія ўступныя экзамены ў Брэсцкі педагагічны інстытут усё ж яскрава і адназначна прадэманстравалі рост аўтарытэту, агульнай прэстыжнасці беларускай літаратуры і мовы сярод нашай моладзі.

**М.В.**

МЕРКАВАННІ

## Як узнікла

За час працягласці работы ў школе ў мяне ўзніклі пытанні, на якія ў свой час я адказаць не мог. Паспрабую гэта зрабіць цяпер, бо, думаю, настаўнікі роднай мовы і гісторыі сустрэнуцца таксама з падобнымі пытаннямі. Закрану адно з іх.

З навукова-гістарычнай літаратуры вядома, што ў Вялікім Княстве Літоўскім афіцыйнай мовай была старабеларуская. Як сцвярджаюць Я.Карскі і П.Растаргуеў, гэта адбылося пры вялікім князі Альгердзе (1345-1377). Але не ясна, якой была гутарковая мова ў нашых продкаў тады? Цяпер даказана, што ў Вялікім Княстве абсалютную этнічную большасць складала славянскае насельніцтва беларускіх земляў. Яно мела распрацаваную пісьмовую мову, якая працягвала моўныя традыцыі Кіеўскай Русі і называлася «руськай». Безумоўна, вусная мова нашай народнасці той пары ўжо мела выразныя беларускія асаблівасці.

Але гістарычныя факты сведчаць: пісьмовая старабеларуская мова тады яшчэ знаходзілася ў стадыі фарміравання.

Спашлюся на Я.Карскага, які адзначаў: «Паяўляючыся асобнымі сваімі рысамі ў першых пісьмовых помніках на рускай мове, беларуская гаворка як асобны арганізм узнікла пераважна ў XIV-XV стст., асаблівай моцы дасягнула ў XVI ст.». Блізкую пазіцыю выказаў П. Растаргуеў. У пісьмовых помніках, падкрэсліў ён, асаблівасці беларускай гаворкі з'яўляюцца толькі з XIII ст., іх больш у XIV-XV стст. «Гэта мова да XV ст. амаль склалася..., значыць, толькі з гэтай пары можна гаварыць аб беларускай мове».

У «Энцыклапедыі літаратуры і

УРАЖАННІ

Мікола КАПЫЛОВІЧ

# З сённяшняга і былога

## Галасы

— Кожны люд, чуеце, сваю мову мае. Нават жывёліны, птушкі, розная дробная жыўнасць гавораць на мовах, якія ім даў Бог. Ці тая ж былінка — яна таксама гудзе па-свойму. Толькі папугаі ў клетках гавораць так, як навучылі іх гаспадары. Усё паўтараюць: «Попка — дурак! Попка — дурак!» Але ж яны, калі былі на волі недзе ў Афрыцы ці Аўстраліі, то кантактавалі паміж сабою на сваёй роднай мове! І як весела тады шчабяталі. А трапіўшы ў няволю, сваю мову забылі. Вось і мы, беларусы, даруйце, што тыя папугаі, па-чужому гаворым, хоць уласную, адвечную мову маем. І я, калі зайду ў кватэру да свайго знаёмага, дзе ёсць папугай, калі прыслухаюся да рыплівага голасу гэтай птушкі: «Попка — дурак... попка — дурак», то здаецца, што чую чалавечы голас: «Я — беларус! Я — манкурт!»

## Бычкі-«нацыяналісты»

— Землі нашага калгаса з Літвою мяжуюцца. І вось неяк на калгасную ферму купілі бычкоў. У літоўцаў. Ладныя былі бычкі: пародзістыя, дагледжаныя, гладкія. І тут старшыня кажа мне: «Будзеш, Казік, іх пасвіць». «Добра», — адказваю. І пагнаў я тых бычкоў на пашу. Божа, колькі клопату з імі схапіў у першы ж дзень! Век буду памятаць! Крычу на іх, бо палезлі ў шкоду: «Куды вы, падлы?!» А яны і вухам не вядуць, пруцца ў авёс. «Назад!» — крычу. Усё роўна лезуць. Якія толькі словы не падбіраў, але бычкі — хоць бы хны. Улётаўся я за імі, аж упарыўся. Але яны ўсё ж начыста скапыцілі авёс. Сабраў, нарэшце, я ўсіх у статак, ганю на ферму. Старшыня сустракае: «Чаму дапусціў патраву? Скасую твае працадні!» І зняў мяне з пастухоў. Другога на маё месца паставіў. Але і ў таго на другі дзень бычкі зноў у ячмень убіліся. Таму назаўтра іх перасталі пасвіць. Стаялі яны галодныя ў калгасным хляве. Равуць, хоць вушы затыкай. Што ж рабіць? Хоць назад іх вяртай да літоўцаў. Да тых, у каго купілі. Маўляў, так і гэтак, ніяк з вашымі бычкамі ўправіцца не можам. Хуліганы нейкія, жах, проста бандыты! Літоўцы прыслалі да нас свайго пастуха. Той выгнаў бычкоў на пашу, пачаў з імі гутарыць па-літоўску. І каманды пасвойму даваць. І — вы б бачылі — хоць бы каторы ўбіўся ў шкоду. Нават не пазіраюць у той бок, дзе яна. Спакойна пасвяцца на поплаве. Во дзіва! У чым, думаю, прычына? Адкрыю вам гэты сакрэт. А справа ў тым, што мову яны нашую не ведалі. Літоўскую ведалі, а нашую — не. Таму і не разумелі, чаго патрабавалі ад іх нашы пастухі. Вось у чым была загвоздка. Сваю мову бычкі гэтыя шанавалі: жывёла і тая разумее, што свайго ніколі нельга цурацца.

## Каўказскі палонны

Цяпер я жыву ў сваёй кватэры, як на Каўказе. Нада мною трохпакаёўку выкупіў грузін, ніжэй абхазец. Насупраць, цераз лесвічную пляцоўку, пасяліліся армяне і азербайджанец. Усе бежанцы. Кожны мае па машыне. І па пісталету: спекулянты, гандляры. Ноччу, калі яны збяруцца, то ўвесь пад'езд ходырам ходзіць. Нап'юцца і б'юцца між сабою. І тут ваюють, няма на іх ліха. Я пісаў скаргу ў міліцыю, каб крыху суседзяў прыцішылі. Дзе там! Участковага купілі. Разам з імі зараз кан'як п'е. Вось так я, франтавік, трапіў дома ў палон. Не да немцаў, а да каўказцаў. Сяджу цяпер ва ўласнай кватэры, што мыш пад венікам, баюся з яе нос высунуць. Заб'юць, чэрці, акупанты гэтыя. Таму часцяком думаю, ці не пара і мне ў бежанцы з роднага кута падацца? Але ж куды?..

## Таму, што люблю...

— Ты — грузін? Армянін, кажаш. На Камароўку едзеш гандляваць. Беларусаў будзеш абдзіраць. Драць з іх апошнюю скуру. Ты ўсю яе з іх дзяры, не пакрыўдзяцца. Яны прывыклі да гэтага, бо стагоддзямі іх абдзіралі. Цяпер таксама. Хіба гэта народ? Калі б беларусы былі народам, то хоць нейкі адпор скуралупам далі б. А яны — маўчаць! Цярпяць. Ні гонару свайго не маюць, ні кроплі самапавагі. Нібы статак авечак без барана: куды гоняць, туды і брыдуць. Чаму я, пытаеш, так думаю пра свой народ? А таму, што люблю яго.

**Наша спадарства ўжо прызвычаілася да рэкламы — на старонках газет, на экране тэлевізара, па радыё. Напачатку вельмі нервавалася, што забіраюць іхні час, перапыняюць ім фільмы, відовішчы. А пасля звыклася. Пераважнай большасці гледачоў сама тая рэклама, якую даюць розныя фірмы, не патрэбна. Гледачоў прываблівае ў рэкламе дынаміка, манера і спосаб яе падачы, музычная аздоба. Асабліва любяць рэкламу маленькія дзеці, можа больш за мультфільмы. Зачуўшы рэкламны рытм, яны кідаюць усё і бягуць да тэлевізара. Становяцца перад ім, як укопаныя, і пакуль тая рэклама не скончыцца, з імі не размаўляй, іх не чапай. Глядзяць і запамінаюць, што паказваецца і што гаворыцца.**

# «Мэлёдыя «Дайновы»

Шмат розных фірмаў рэкламуе сябе. І іхняя рэклама вартая ўвагі. І ўсё ж маё шчырае беларускае сэрца больш за ўсіх прываблівае рэклама «Дайновы — Dainovy», бо яна не толькі рэкламуе сваю дзейнасць, свой занятак, свой тавар: тут і трубы, і дасканалыя кампутары, і разнастайнае іншае гаспадарчае начынне.

Побач ідзе і рэклама беларускага слова, беларускай культуры, гісторыі. «Ладнай гаспадарцы — ладнае начынне», «Дасканалая тэхніка — пашана часу». У дайноўцаў свой стыль, свая манера пошуку слова. У іх чытаем: «ліст дахавы». І ўсё зразумела. Гэта не тое, што на нашым дзяржаўным радыё, дзе штодня чуеш бяздумна вульгарнае: бляха — жесть, муляр — каменщик, дахар — кровельщик...

Кожная рэклама «Дайновы» — гэта маленькі мастацкі твор. Тут, калі хочаце, і элегія, і імпрэсія. І гэта не перабольшанне. Вось дайноўскае віншаванне з нагоды Першага з'езда беларусаў свету:

*«Беларусы... Колькі іх, раскіданых*
*лёсам па сьвеце.*
*Колькі дарог... Але сёньня дарога*
*дамоў.*

*Дзень добры, беларусе!*
*Ну, вось ты й на Радзіме. Яна цябе*
*чакала.*
*Чакала ўсімі кветкамі, што маюць*
*расьцвісьці*
*на Яна, на Купальле,*
*Цябе сягоньня можна зразумець...*
*У тваім сэрцы — цэлы сьвет,*
*дзе йшчэ жывуць надзеі ды ўспамін*
*маленства.*
*Праз смугу гадоў цябе вабіць красой*
*Беларусь, нібы чар.*
*У якіх бы краёх ты ня быў — уваччу*
*далягляд,*
*гэты лес і рамонкавы луг...*
*Па дарогах жыцьця, у вандраваньнях*
*па сьвеце ты ня страціў,*
*зьбярог найдаражшы свой скарб —*
*самабытную матчыну мову.*
*Безь яе як зьяднаць свае сэрцы*
*братам-беларусам?!*

*...Цягнік жыцьця імчыць далей, а зь*
*ім і дум нашых імкненьні.*
*Пошукаў плён, працы здабытак,*
*багацьце душы — на Беларусь!»*

І ўся гэтая дайноўская імпрэсія мае назву «Спатканьне з Радзімаю».

А якія шчымлівыя, глыбока пранікнёныя, дайноўскія віншаванні спадарства нашай краіны з Новым Годам, з калядамі, з Радаўніцай!..

Дайноўцы шчыруюць са словам, шукаюць яго эстэтычны і гістарычны смак. Яны гавораць і пішуць не «камп'ютар», як гэта робім мы, а «кампутар». І не з неба яны яго ўзялі. Высвятляецца, старажытная беларуская мова ведала ўжо згаданае слова, і яно там ужывалася якраз у такой форме, у такім гучанні. І я разумею дайноўцаў: адкрыўшы яго, яны ўжо не могуць адмовіцца ад свайго адкрыцця, ад свае гісторыі. Такім *прынцыпам* яны кіруюцца пры падрыхтоўцы любой сваёй рэкламы.

Прапагандуючы сваю фірму, яе назоў, яны адкрыта прапагандуюць і наша слова, прычым у еўрапейскім кантэксце. Мала хто на Беларусі не ведае, не чуў вось гэтай дайноўскай рэкламы:

**«Папера — paper**
**палац — palace**
**колер — colour**
**гонар — honour.**

...Папера, палац, колер, гонар!.. Яно так і будзе... Пачынайце ангельскую мову вывучаць пасля беларускай... Беларуская мова — мова Еўропы!..»

У «Dainovy», як бачым, еўрапейскі погляд на ўсе з'явы жыцця. Мова наша ў іхнім прадпрымальніцтве — гэта дух, які дапамагае ім ладна весці сваю фірму, сваю гаспадарку.

Адкуль жа «Дайнова» бярэ гэты дух, гэтую энергію? Кажуць, што «Дайнова» мае повязь з космасам. Што ж — гэта вельмі верагодна!

Пашлі, Божа, гэтую касмічную энергію і на наш урад, і на Прэзідэнта, і на Інстытут мовазнаўства, і на шмат якія рэдакцыі беларускіх газет, на наша радыё і тэлевізію, каб на іх, людзей, якія працуюць са словам, прыйшла гэтая энергія, прыйшоў нарэшце культ слова, культ моўнага стылю, каб словы свае яны абагравалі душою, як гэта робяць дайноўцы. Упэўнены, калі ўся наша беларуская грамада, разам з урадам, Прэзідэнтам, Вярхоўным Саветам возьме прыклад з «Дайновы», — Рэспубліка Беларусь стане шчасліваю, яна выйдзе з крызісу. Яе, як і «Дайнову», чакае эканамічны поспех.

Чаму так думаю? Таму што ў «Дайновы» ўсё суладна і арганічна — і духоўнае, і прадпрымальніцкае. Ім не трэба, як афіцыйнай уладзе, дваіцца, траіцца, азірацца і аглядацца. Дайноўцы добра ведаюць, чаго яны хочуць і што ім спрыяе быць цэласным арганізмам. А гэтага якраз моцна нестае дзяржаўным структурам. То, можа, усе скіруем свае погляды на «Дайнову» і возьмем з яе прыклад?!

З «Дайновай» ідзе метал на Беларусь!

З «Дайновы» шырыцца на Беларусі і наша роднае слова!

Хай заўсёды будзе так!

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

МЕРКАВАННІ

## дзяржаўная мова

...мастацтва Беларусі» чытаем: «З сярэдзіны XV ст. пісьменнасць на Беларусі насычаецца спецыфічна беларускімі рысамі ў такой меры, што ёсць усе падставы гаварыць аб беларускай літаратурнай мове таго часу, бо сваімі арфаграфічнымі, граматычнымі і лексічнымі адзнакамі яна прыкметна аддалілася ад старажытнарускай літаратурнай пісьмовай мовы». У тым жа выданні сказана: «З XIII ст. паявіліся характэрныя рысы беларускай мовы, якія на працягу XV-XVI стст. выразна акрэсліліся ў афіцыйных дакументах і помніках літаратуры».

«Энцыклапедыя гісторыі Беларусі» (т.1) паведамляе: «З сярэдзіны XV ст. пісьменнасць на Беларусі насычаецца спецыфічна беларускімі рысамі, што дае падставу сцвярджаць пра самастойную беларускую літаратурную мову са сваімі ... адзнакамі ... Яе развіццю спрыяла тое, што яна ў ВКЛ выконвала функцыю дзяржаўнай мовы».

Для мяне найбольш пераканаўчым бачыцца тлумачэнне ў новых «Нарысах гісторыі Беларусі» (1994 г., т.1): «Спецыфічныя рысы беларускай мовы пачалі ўзнікаць здаўна — не пазней XIII ст. — у выніку ўзаемадзеяння і сінтэзу старажытнарускіх традыцый і мясцовых асаблівасцей... Гэтыя рысы паступова пранікаюць у пісьмовыя помнікі XIV-XVI стст. Беларуская літаратурная мова канчаткова склалася як самастойная моўная сістэма ў другой палове XVI ст.»

На падставе прыведзеных сведчанняў можна зрабіць выснову, што спачатку ў ВКЛ ролю дзяржаўнай мовы выконвала агульнаўсходнеславянская мова, у якую паступова пранікалі асаблівасці беларускай жывой гаворкі да той пары, пакуль яны не сталі пераважаць. Апошняе магло адбыцца ў XV-XVI стст.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**настаўнік беларускай мовы і літаратуры.** г.Ашмяны.

СКАЗАНА

# Як быццам пра нас і цяпер

Гэта сказана (напісана) вялікім расійскім паэтам у першай чвэрці XIX стагоддзя і пра сваё грамадства, але як, аказваецца, сугучна нашай рэчаіснасці, беларускай. Суцяшае хіба адно: амаль усе цывілізаваныя нацыі праз гэта праходзілі (у той жа Польшчы нешта падобнае адбывалася яшчэ на пачатку XVI стагоддзя), дасць Бог, адолеем і мы.

**То прачытаем:**

«Усе нашы веды, усе нашы паняцці з маленства атрымалі мы з кніг замежных, мы прывыклі думаць на чужой мове... Вучонасць, палітыка і філасофія яшчэ па-руску не гаварылі: метафізічнай мовы ў нас зусім не існуе... і лянота наша ахвотней выказваецца на мове чужой, якой механічныя формы даўно ўжо гатовыя і ўсім вядомыя».

**А.С.ПУШКІН**

ЗГАДКІ

# НА ПАГОСТ ДА ЗАБЫТЫХ СТАБРОЎСКІХ



Беларускі пісьменнік Яраслаў Пархута любіць падарожнічаць. За яго плячыма — многія сотні кіламетраў вандровак па роднай зямлі. У чэрвені 1988 года ён пабываў і на Слонімшчыне. Мы сустрэліся, доўга гутарылі пра гісторыю і літаратуру, пра знакамітых людзей нашага краю. Гаварылі і пра Іосіфа Стаброўскага — заснавальніка Слонімскага краязнаўчага музея, археолага, гісторыка, вучонага і вайскоўца. «Ці быў ты хоць раз у Орлавічах?» — спытаў Яраслаў Сільвестравіч. «Не, не быў, — адказаў тады я, — але добра ведаю, што там, на могілках, пахаваны Іосіф Стаброўскі, яго бацькі, жонка і дзеці».

На другі дзень Яраслаў Пархута папрасіў у мясцовых улад машыну і паехаў на Орлавіцкія могілкі. Вярнуўся без настрою: «Лепш бы я туды не ездзіў, толькі расхваляваўся». Больш падрабязна пра гэтую паездку ён напісаў у сваёй кнізе падарожжаў «Крыніца ёсць у родным краі...» (Мн., 1992 г.): «У дырэктара Слонімскага раённага краязнаўчага музея Ірыны Рыгораўны Шпырковай пытаюся пра Орлавічы, дзе пахаваны Стаброўскі, пра магілу, у якім яна стане. Шпыркова кажа: — Там усё як мае быць! Прыязджалі з Акадэміі навук, узвялі помнік — пазайздросціць можна!..

Назаўтра адшукаў Аркадзя Кашко, старшыню Азгінавіцкага сельсавета, на тэрыторыі якога знаходзяцца Орлавічы, і мы паехалі з ім туды. Толькі што прайшоў цёплы летні дождж. Хмара сплыла, выблiснула яркае сонца. Паабапал дарогі ляжалі палеткі амаль дасpелай ярыны. За Орлавічамі раскінулася сухадольная лугавіна. Кашко прамовіў:

— Вось гэтую сенажаць некалі перадаў Стаброўскі сялянам.

Яшчэ мінут колькі язды і спыняемся. Бачым, на бульбяным палетку завіхаецца кабета. Выходзім з машыны.

— Кузьмінічна! — гукнуў старшыня. — Да вас едзем!..

Жанчына напрасткі накіравалася да нас. Калі выбралася на дарогу, Кашко сказаў ёй, паказваючы на мяне:

— Чалавек з Менска цікавіцца Стаброўскім, хоча ўведаць, як жыў, дзе пахаваны.

Спахмурнеў твар жанчыны. Зірнула на старшыню сельсавета, на мяне, быццам раздумваючы: усё казаць незнаёмцу ці не?

— Дзядулю нашага ведаю даўно. Працавіты быў, для людзей харошы. Але пад канец яму дужа дрэнна жылося. І я насіла яму ў Слонім то малака, то смятанкі, то мукі — што мела. Сама я з Браншчыны... А замуж мяне ўзяў Філіп Курыловіч, што ў Стаброўскіх гадаваўся. Ён, Філіп, у шэсць гадоў уцёк ад мачыхі і пайшоў, як тады казалі, да пана. І пан, гэта значыць Стаброўскі, прыняў яго, на ногі паставіў. Яны ўвесь час былі разам. І курганы раскопвалі, і камяні тачылі на помнік. На дзевяноста дзевятым годзе жыцця памёр дзядуля... Людзі з усіх вёсак праводзіць прыйшлі, ад гасцінца труну на плячах неслі. Жалобны стол у нашай хаце правілі...

Кузьмінічна змоўкла.

— А магілка яго з краю, — паказала рукою на зялёную купу дрэў пры ўзгорку.

І вось мы прадзіраемся густым зараснікам. Могільнік незвычайны. Тут знаходзяцца ажно 52 курганы, якія ў свой час даследаваў Стаброўскі. Але цяпер нам трэба пабачыць яго магілу. Нарэшце Кузьмінічна спыняецца, расхінае кусты і тлумачыць:

— Вот гэтыя дубовыя крыжы, — на магілах яго блізкіх: жонкі Амеліі, сына Міраслава і дачкі Іры. А маленечкі крыжык, што прыслонены да помніка, з магілы дзеда. Зусім згінуў... І магілка з зямлёю зраўнялася...

Толькі цяпер я заўважаю высокі, з цёмнага каменя, чатырох'ярусны помнік і прыгадваю словы Шпырковай. Але Кузьмінічна пярэчыць:

— Мана ўсё гэта! Помнік стаўляў сваім родным Стаброўскі. З маім Хвіліпам. Яны і камяні з поля вазілі, і часалі... Гады са тры іх часалі, тачылі...

Яна памаўчала трошкі і дадала:

— А ён, Стаброўскі, чыста ведаў, што ніхто яму не паставіць помніка... То як бы і сабе паставіў тады яго...

Пакідаў Орлавіцкі пагост я з цяжкім сэрцам. Адчуваў: камень лёг і на сэрца старшыні сельсавета.

Развітваючыся, Аркадзь Кашко мовіў:

— Сорамна. Усім нам. Трэба падказаць школьнікам, няхай возьмуць шэфства над магілай Стаброўскага. Чалавек заслужыў гэтага...

Так, Іосіф Стаброўскі заслужыў шмат чаго, але толькі не людской памяці.

Тыдзень назад, разам з рэжысёрам Беларускага тэлебачання Аляксандрам Сухоцкім, які здымае дакументальны фільм пра Стаброўскага, я зноў наведаў Орлавіцкі пагост. Апісаць убачанае проста немагчыма. Здаецца, мы трапілі ў непраходны хмызняк, дзе доўга не ступала нага чалавека. Магілы Стаброўскіх зраўняліся з зямлёй, крыжы пагнілі і валяліся пад сухім, чорным лісцем. Таму мы ледзь адшукалі і вялікі каменны чатырох'ярусны помнік, які рабіў і ставіў І.Стаброўскі разам з Філіпам Курыловічам...

Набліжаліся Дзяды — памінальны абрад нашых продкаў. І каб неяк выратаваць ад поўнага знішчэння магілы знакамітых Стаброўскіх, невялічкая групка слонімскіх энтузіястаў (на здымку) зноў завітала ў Орлавічы. Дзякуй Богу, жыве яшчэ і Кузьмінічна, якая нам падказала, дзе хто ляжыць са Стаброўскіх, дзе які крыж трэба ставіць, расказала нам пра Іосіфа Стаброўскага, які ў свой час перадаў орлавіцкім сялянам у вечнае карыстанне 65 гектараў зямлі... Але ці ў гэтым справа? Ці толькі гэтага заслугоўвае наш знакаміты зямляк?

У наступным годзе спаўняецца 125 гадоў з дня нараджэння Іосіфа Стаброўскага. Я веру, што слонімцы адзначаць гэты юбілей належным чынам і абавязкова пабываюць у Орлавічах. Праўда, туды яны паклічуць і прадстаўнікоў Слонімскага райвыканкама, краязнаўчага музея і мясцовага калгаса, на тэрыторыі якога знаходзіцца Орлавіцкі пагост. Так хочацца спадзявацца, што не давядзецца апошнім там чырванець і сякерамі ды рыдлёўкамі ачышчаць сцяжынку да забытых Стаброўскіх.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**
**Фота Мікалая СУПРУНА.**



*Беларускае замежжа*

## «Czasopis» у кастрычніку

Убачыў свет чарговы, кастрычніцкі нумар «Czasopisa» — інфармацыйна-культурнага выдання ўсходняй Беласточчыны.

Як заўсёды, нумар пачынаецца з рубрыкі «Меркаванні, погляды, выказванні». Гэтым разам погляды на становішча Польшчы і Беларусі прадстаўлены цытатамі з інтэрв'ю расійскага пісьменніка Аляксандра Салжаніцына, польскай газеты «Кур'ер поранны», пасла Расіі ў Польшчы Юрыя Кашлева, міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Сянько, урыўкаў з інтэрв'ю з Галінай Лукашэнка.

Наступная буйная рубрыка штомесячніка «Мінуў месяц» утрымлівае паведамленні аб культурным і палітычным жыцці беларусаў у Беларусі, Польшчы і ў свеце. Увагу да сябе прыцягвае артыкул Юры Хмялеўскага «Паміж пачуццём свядомасці і прывязанасцю да рэгіёна». Падзея святкавання 50-годдзя Бельскага ліцэя імя Тарашкевіча з беларускай мовай навучання асвятляецца ў ім цалкам інакш, чым у друку Беларусі. Сведчанне таму — змешчаны ў артыкуле ўрывак з інтэрв'ю дырэктара школы А.Карпюка і дырэктара ліцэя І.Навіцкай журналістцы польскай «Газэты выборчэй»:

«— Дык навошта дадатак (у назве ліцэя. — У.П.) «з беларускай мовай навучання»? Ці школьныя ўлады некалі думаюць гэта ажыццявіць?

— Не думаю. Навучанне поўнасцю па-беларуску было б крыўдай для вучняў. Яны не паступілі б у такі ліцэй, бо не былі б у змозе прадаўжаць адукацыю ў вышэйшых установах (А.Карпюк).

— Скарачэнне мы пакінулі, бо яно нам не перашкаджае (І.Навіцкая)».

Наступныя тры артыкулы нумара — «Вакол Супрасля», «Такімі нас бачаць?» і «Другі раз з Гродна да Жыровіч» — аб'ядноўвае рубрыка «Праваслаўе», і не дзіўна, бо да гэтай канфесіі належыць пераважная большасць беларусаў Польшчы. Тэмы артыкулаў — спрэчкі паміж каталікамі і праваслаўнымі Польшчы аб прыналежнасці Супрасльскага манастыра, заснаванага уніятамі, адлюстраванне жыцця праваслаўных у Польшчы сродкамі масавай інфармацыі, рэлігійнае жыццё ў Беларусі.

Некалькі старонак «Czasopis» аддае рэпартажам: «Быў сабе двор» расказвае аб падзеях 17 верасня 1939 года ў вёсцы Ярылаўка, што апынулася на савецкім баку; «Лясны парк у цяні крыжоў» — аб парку, створаным у Кнышыньскай пушчы ў памяць паўстанцаў 1863 года; «Хай жыве Брэст, хай жывуць берасцейцы» — аб з'ездзе берасцейцаў свету, удзельнікамі якога стала каля 300 асоб з розных краін.

«Туга штурхае мяне да размовы» — такую назву мае гутарка Тэрэзы Занеўскай з Віктарам Шведам, вядомым у Польшчы літаратарам і перакладчыкам беларускага паходжання.

Надзвычай цікавыя артыкулы — «Грамадзяне другой катэгорыі» і «Польскае жыццё ў Беларусі» — змешчаны пад рубрыкай «Грамадства». У першым з іх разглядаецца праблема дыскрымінацыі ў Польшчы прадстаўнікоў этнічных, нацыянальных, рэлігійных ды іншых меншасцей. «У Бельску сорамна прызнацца, што ты беларус, бо для палякаў гэта азначае цёмнага мужыка альбо камуніста», — цытуе аўтар артыкула словы Яцака Куроня, кіраўніка сеймавай камісіі ў справах нацыянальных меншасцей. Аўтар другога артыкула разглядае працэс адраджэння польскай нацыянальнай свядомасці ў Беларусі. Спасылаючыся на неназваных грамадскіх дзеячаў, ён падае рост колькасці беларускіх палякаў з 417 720 асоб у 1989 годзе да 1 200 000 у гэтым. Тым не менш публікацыя заканчваецца наступнымі словамі: «Назіраны стан польскасці ў Беларусі схіляе да прынцыповага пытання: ці там адбываецца сапраўдны працэс нацыянальнага адраджэння, ці своеасаблівай кан'юнктурнай паланізацыі?»

Гісторыя рэгіёна стала тэмай працы «Царква ў падзеях Бельска», працяг якой друкуецца ў кастрычніцкім нумары. Апошнія старонкі займаюць лісты чытачоў, аб'явы аб запланаваных рознымі арганізацыямі Беласточчыны акцыях ды «Хроніка мясцовасці», якая гэтым разам падае гісторыю млына на рацэ Машчонай у вёсцы Станковічы.

**У.ПАНАДА.**

## «Голас часу» — лістапад — снежань, 1994

На Беларусь прыйшоў чарговы нумар (№ 33/6) царкоўна-грамадскага часопіса «Голас часу», што выдаецца ў Англіі. Ён адкрываецца невялікай нататкай консула Рэспублікі Беларусь у Лондане А.Якавіцкага «Прыйшлі змены». У ёй аўтар распавядае пра тыя перамены, якія адбыліся ў нашай рэспубліцы пасля першых у яе гісторыі выбараў Прэзідэнта.

«Чаму дэмакратычная апазіцыя прайграла выбары» — так называецца вялікі артыкул Аляксандра Баханчыка, у якім ён аналізуе вынікі галасавання ў час прэзідэнцкіх выбараў па асобных гарадах і раёнах, а таксама называе прычыны, якія перашкодзілі атрымаць перамогу дэмакратычнай апазіцыі. А апазіцыі, піша аўтар, трэба павучыцца хаця б у Расіі, да чаго прыводзяць амбіцыі кіраўнікоў руху і партый, якія не могуць «аб'яднацца дзеля вышэйшай мэты».

У нумары шмат увагі надаецца матэрыялам на гістарычную тэму. Чытачам прапанаваны публікацыі Юры Весялкоўскага «Слуцкая абарона» і «Прычыны хатніх і міжнародных войнаў (для прыкладу — Югаславія)», Ю.Сяржынскага «Галасы аб «Вялікай Айчыннай вайне»» і ўдзел у ёй савецкіх і польскіх партызан», І.Г.Антонава «Арышт і інтэрніраванне мяне ў канцэнтрацыйныя польскія лагеры: кракаўскі — «Домбя» і беластоцкі — «ст.Раздзельная»». Чытачы таксама знойдуць заканчэнне дадатка да «Кароткіх успамінаў» Паўла Навары. Яго напісаў Ю.Весялкоўскі.

У нумары змешчаны артыкул Ул.Паддубнага «Там, дзе хадзіла смерць. Пад Сталёвым Градам», вершы Надзі Дземідовіч «Да саракагоддзя кенгірскага паўстання» і Лявона Случаніна «Гімн выгнанцаў». Чытачы з цікавасцю прачытаюць невялікую нататку А.Баркоўскага «Марына Уладзі аб беларусах». Тут жа змешчаны верш Уладзіміра Высоцкага «Ён не вярнуўся з бою».

Напрыканцы нумара падаецца кароткая інфармацыя з беларускага перыядычнага друку.

**Л.Б.**

ВУЧЫМСЯ

Мікалай КРЫЎКО

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАХМУ́РНЫ** (пра надвор'е, неба, час сутак і пад.: цёмны ад хмар, воблакаў, дажджу) *Ад учарашняга пахмурнага дажджлівага надвор'я і знаку няма* (Бядуля). *Халаднаваты, пахмурны ранак. Неба шэрае, паветра вільготнае* (В.Вольскі). *Ноч была цёмная, пахмурная* (Асіпенка), **ПАХМУ́РЫ** *Ёсць тут і высокія, стройныя бярэзіны, але ў пахмурае надвор'е яны выглядаюць нейкімі журботнымі, задуменнымі* (Сташэўскі). *Калі дружба ёсць – пахмуры дзень Ясным сонцам свеціцца наўкола* (Астрэйка). *Пахмурым верасьнёўскім надвячоркам сорак першага года я апошні раз бачыў свайго бацьку* (Мехаў), **ХМУ́РНЫ** *Дзень па-асенняму хмурны, таму пад шатамі елак амаль вячэрні паўзмрок, і немагчыма разгледзець зубравы вочы: што ў іх* (Шамякін). *Была хмурная, гразкая восень* (Скрыган). *Потым узышоў месяц. Ён паволі падымаўся па хмурным небе* (Асіпенка), **ХМУ́РЫ** размоўнае *Помню хмуры ранак, У росах канюшына, толькі птушкі посвіст ды шляхі, шляхі* (Чарнушэвіч). *Хмурым асеннім днём, вяртаючыся з грыбоў, я прысеў на ўзлеску на пянёк, каб адпачыць* (Сачанка). *І ў хмельны май, і ў хмуры снежань Тут п'яны пах смалістых хвой* (Арабейка), **ЗМРО́ЧНЫ** *Гэта восень майстэрскай рукою Тчэ з туманаў сівыя палотны. Нашаптала яна ў вечар змрочны Невыразных загадак аповесць, Каб, як грэшніка, клікаць на споведзь У дванаццаць гадзін апаўночы...* (Звонак). *Цёмныя абрысы вагонаў ясна выдзяляюцца на змрочным небе начы* (Лынькоў). *Восень змрочная навісла Бамбавозамі, дымам, металам* (Прануза), **ШЭ́РЫ** *Грыша толькі цяпер заўважыў, што шэры асенні дзень пасвятлеў і ў суцэльнай пялёнцы туману сям-там віднеліся прагаліны* (Пальчэўскі). *Раніца выдалася шэрая, мароз паслабеў, паўднёвы вецер нёс пах блізкай адлігі* (Хадкевіч). *Цяжкае шэрае неба паднялося высока, і скрозь заслону імглы, якая пачала знікаць, з'явіліся расплывістыя абрысы сонца* (Пятроў), **ЦЬМЯ́НЫ** *Я помню сад у срэбным уборы... Паміж красуючых духмяных дрэў Стаяла ты – ўся ў белым, Сад шумеў. У цьмяным небе замігцелі зоры* (Журба). *Не забыцца пра той журботны цьмяны прадвясновы дзень, пасвятлелы воблік шэрага рабацягі, які, чытаючы ўголас па складах, трымаўся парэпаным пальцам за кожны радок* (Брыль).

**ПА́ХНУЦЬ** *чым, без дапаўнення і безасабовае* (вылучаць, распаўсюджваць які-н. пах) *Асабліва здорава, зусім па-хатняму, пахла ў зямлянцы цыбуля* (Брыль). *Рукі пахнуць зярнятамі, Што высяваў, Ці снапамі, нажатымі ў час жніва* (Арочка), **ПАТЫХА́ЦЬ** *чым, без дап. і безас. Дрэмлючы чуў [Павал], як пахла ў хаце новымі ботамі – дзёгцікам патыхаюць боты* (Чорны). *І так салодка патыхае Вільготна-чорная ралля* (Бураўкін). *Ад снапоў крыху патыхала зляжалай саломай, амаль няўлоўным водарам летняга поля і кветак* (Савіцкі), **ТХНУЦЬ** *безас., чым і без дап. З возера тхнула ілам, прэллю водарасцяў, тхнула рыбаю, якой шмат-такі загінула* (Броўка). *Мы адчынілі пуньку. Тхнула трухой леташняга сена* («Маладосць»). *З галечыні тхнула асмалкамі* (Чорны), **ЦЯГНУ́ЦЬ** *безас., чым Увосень скрозь пахлі смалой новыя сцены, з лесу цягнула грыбной духмянасцю* (Чорны). *А з гары цягнула пахам ліповага цвету, дбайна назапашанага Рагінаю на доўгую зіму* (Адамчык). *Знадворку цягнула дурманлівай прахалодай мокрай мяты* (Паўлаў), **НЕ́СЦІ** *безас., чым і без дап.*; разм. (вылучаць моцны, рэзкі пах) *Пажарышча далёка відаць – на многа вёрст. Нясе гарам* (Бядуля). *З рота нясло гарэлкай, і гаворачы ён [Мікіта] пырскаў слінай на свайго швагра, Сымона, які сядзеў побач з ім* (Брыль). *Ад ліп нясе мядовым пахам* (Стрыгалёў). – Параўнайце: **Смярдзець.**

**ПАХО́ДЖАННЕ** (узнікненне, паяўленне каго-, чаго-н. як вынік якіх-н. з'яў, працэсаў і пад.) *У аснову свайго твора для дзяцей – аповесці «Чалавек ідзе» – Янка Маўр паставіў важнае пытанне аб паходжанні чалавека* (Яфімава). *Гэтыя мінералы ўтварыліся не ў межах Сонечнай сістэмы, бо інакш мы маглі б сінтэзаваць іх. Значыць яны маюць іншае паходжанне, касмічнае* (Шыцік). *Даследчык даводзіць агульнасць паходжання.. рускай і беларускай моў* (Барысенка), **ГЕ́НЕЗІС** кніжнае *Нямала паламана пер'яў у спрэчцы пра генезіс сімвалізму Багдановіча, пра яго вытокі* (Смолкін). *У гэтым сэнсе праблему генезісу жанру частушкі трэба лічыць нявырашанай, даследаванне яе патрабуе новых матэрыялаў* (Цішчанка).

**ПАХО́ДЗІЦЬ** *з каго-чаго, ад каго-чаго* (належаць па нараджэнні да якога-н. класа, саслоўя, роду і пад.) *Лабановіч паходзіць з беднай сялянскай сям'і* (Пшыркоў). *Драздовіч сам паходзіў са шляхты, але не выхваляўся гэтым* (Машара), **ВЫХО́ДЗІЦЬ** *з каго-чаго* (слова *выхо́дзіць* ужываецца пераважна ў закончаным трыванні – *вы́йсці*) *Увесь гэты сялянскі воблік і простая вопратка не былі падробліваннем пад народ. Чалавек, які выйшаў з народа, жыў яго інтарэсамі і спадзяваннямі, абараняў яго правы як адвакат і публіцыст, праўдзіва паказваў сялянскае жыццё і побыт у сваіх выдатных паэтычных творах, не мог і не жадаў чым-небудзь адрозніваецца ад людзей, якім шчыра адданы сэрцам і перакананнямі* (С.Александровіч). *[Іван Бондар:] – Былі такія, што выходзілі з народа, прабіваліся ў літаратуру і пісалі лепш, як твае паны* (Машара). – *Закончанае трыванне*: **Выйсці.**

**ПАХО́ДКА** (манера хадзіць) *Ішоў чалавек паволі, стомленай паходкай* (Чорны). *Гэты выдумшчык дзеля жарту кожны раз грыміраваўся, пераймаў паходку, голас, жэсты якога-небудзь добра вядомага ўсім вясковага дзеда* (Краўчанка), **ХАДА́** *Хоць дзяўчына была далекавата...[Леанід] пазнаў: гэта Алечка! Пазнаў па лёгкай постаці, па хадзе, сціплай, строгай* (Мележ). *Голас...[Аўдолі] быў грубы, уладарны, хада размашыстая, як у салдата, і смешна было глядзець, калі яна сваімі кароткімі ножкамі адмервае шырачэзныя крокі* (Чарнышэвіч), **СТУПА́** *Ціхай ступою ішоў Андрэй праз сваю родную вёску* (Пестрак). *Нялёгка часам ладзіць нам з табою, І ў праваце сваёй – нібы нямы. Лепш падыдзі нячутнаю ступою І абнімі* (Пысін), **ПО́СТУП** *[Салдат] ідзе за афіцэрам, старанна і пужліва прыстасоўваючы свой крок да няпэўнага поступу пана лейтэнанта* (Лынькоў). *Паручнік, злезшы з свае каламажкі, паволі, важным поступам абышоў усе падводы* (Нікановіч).

УДАКЛАДНІМ

## Знакі прыпынку ў складаназалежных сказах

*Леанід БУРАК,*
*заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар*

### с) Складаназалежныя сказы з некалькімі дадзенымі часткамі

*(Працяг.)*

4. Калі даданыя часткі складаназалежнага сказа размешчаны ў сярэдзіне галоўнай часткі, то яны выдзяляюцца коскамі з абодвух бакоў: *Там, дзе раней ляжалі хмызнякі або жаўцеў голы пясок, раслі стройнымі радамі маладыя сасонкі* (А.Чарнышэвіч). *Той, хто не чуў народнай гаворкі з усім багаццем яе лексікі і фразеалогіі, хто абыякава ставіцца да гэтай найбагацейшай крыніцы, той не зможа стварыць яркіх, паўнакроўных твораў* (Кандрат Крапіва).

Пасля даданых частак для іх выразнага адмежавання, апрача коскі, можа ставіцца працяжнік: *Там, дзе сосны гурбою заглядаюцца ў высі, дзе чароты сцяной над вадой узняліся, дзе арэшнік развесіў гронкі вочак-арэхаў, – заблудзілася ў лесе зялёнае рэха* (К.Кірэенка).

5. Калі даданыя часткі складаназалежнага сказа маюць далучальнае азначэнне, а на іх стыку з галоўнай часткай існуе працяглая паўза, то ў залежнасці ад характару гэтай паўзы і лагічнага выдзялення асобных кампанентаў у сказе можа ставіцца двукроп'е (лагічна выдзяляецца галоўная частка), працяжнік (лагічна выдзяляюцца даданыя часткі), коска з працяжнікам (лагічна выдзяляюцца даданыя часткі і рэзка адчляняюцца ад галоўнай часткі): *Я хацела толькі аднаго: каб ён хутчэй паправіўся і каб больш не лячыць мне яго* (Кузьма Чорны). *Тут ён падумаў па-свойму – што Гольвас хворы і тутэйшыя дактары не могуць яго вылечыць* (Кузьма Чорны). *Гэтак ясна зрабілася ўсё, – што без долі сцерлася маладосць, што і цяпер на ш часце спадзявацца цяжка...* (Я.Брыль).

6. Калі даданыя часткі складаназалежнага сказа знаходзяцца ў паслядоўнай залежнасці, яны аддзяляюцца ад галоўнай часткі (а таксама адна ад другой) пры дапамозе коскі: *Дзьмуў вільготны вецер і прыносіў той характэрны пах, па якім пазнаецца, што блізкая вясна* (І.Шамякін). *Дождж мусіў пайсці, бо ўжо гэтак сушыла, што проста дыхнуць не магла канюшына* (М.Лужанін). *Плыла, цалавалася хмара з зямлёй, аж жнеі сярпы пакідалі, бо ўгледзелі ўжо, як узбягаюць па ёй маланкі на жытнія далі* (А.Куляшоў).

7. Калі адна або некалькі даданых частак складаназалежнага сказа суправаджаюцца аслабленай інтанацыяй і набываюць дадатковае адценне ўстаўкі, то яны аддзяляюцца ад гэтых частак пры дапамозе коскі з працяжнікам: *І толькі пасля, – калі чорная сінь, і гром, і маланка спаўзлі за адхоны, – мы чулі выразна, што блізка зусім храпуць неспакойна і цокаюць коні* (П.Глебка).

8. Калі даданыя часткі з паслядоўнай залежнасцю з'яўляюцца развітымі (іншы раз са сваімі знакамі прыпынку), то пры працяглай паўзе паміж імі ставіцца кропка з коскай, напрыклад: *Ніхто не знаў тых струн, патайных ніцей душы, што злучаюць гук пярунаў з немым голасам цішы; бо і ў той цішы зацятай ёсць і голас, і свой твар, разнастайны і багаты, поўны музыкі і чар* (Якуб Колас).

Калі ж адна з даданых частак выдзяляецца лагічна, то паміж ёй і другой даданай часткамі можа ставіцца двукроп'е: *Піліпчык баяўся, што дзядзька не дазволіць яму далёка адыходзіць ад лагера: таму, нічога не гаворачы, ён пайшоў на астраў адзін* (М.Лынькоў). *Час ад часу мы спыняліся, каб прыслухацца: ці не шаркаюць па жвіры, усцяж рэек, падкаваныя боты патруля...* (Я.Брыль).

Філалагічныя загадкі

## Кадукова права

*«...О, мова беларуская! Твой гук заўсёды, Як рэха даўніх дзён»*

Гэтыя радкі польскага паэта Віктара Гамуліцкага (перакл. Максіма Танка) заўсёды ўзбягаюць на памяць, калі сутыкаешся з вельмі цікавымі словамі, выслоўямі, сэнс якіх не зусім зразумелы. Шмат каму з беларусаў, хто з дзяцінства не адчуў прэс дэнацыяналізацыі, помніцца слова «кадук», пачутае з вуснаў бабуляў, цётак. Часам папрок малым жэўжыкам яны выказвалі не злосна, амаль жартам: «А каб цябе кадук...», якое ўспрымалася як і жартоўны праклён «А каб цябе качкі стапталі».

Аднак жа, некалі кадук не быў такім бяскрыўдным. У XIX ст. беларускія нарадазнаўцы натавалі, што гэтае слова азначае 'чорт, д'ябал, лясун, нешта благое, нялюдскае'. М.Нікіфароўскі запісаў народнае паданне, што «...ад першабытных злачынцаў уцалелі некаторыя асобіны, рассеяныя па зямлі — гэта кадукі», і што «...кадук падобны на капу сена, гурбу моху». Е.Раманаў пацвярджаў, што кадук — разнавіднасць чорта, які жыве ў руінах старых будынкаў, у вадзяных млынах. П.Шпілеўскі пісаў, што «кадук найстаршы з усіх нячысцікаў, ён амаль не вылазіць з балота».

Адным словам, кадук у народным уяўленні быў нейкай не надта акрэсленай дэманічнай істотай, якая можа прыносіць шкоду чалавеку, але што азначае сама яго назва? Відаць, яе паходжанне можна вывесці з лацінскага тэрміну «кадукус» — 'падаючы', 'хвор на падучку', г.зн. на эпілепсію. Справа ў тым, што да такіх хвароб людзі ў мінулым адносіліся са страхам, не ведалі, як лячыць чалавека, і лічылі, што чалавекам авалодаў нейкі д'ябал, усяліўся ў яго і мучыць. Чуючы, як дактары на лаціне вызначаюць хваробу «кадукус», людзі перанеслі гэтую назву на таго ўяўнага чорта — нячысціка. Так лацінскі тэрмін паслужыў асновай для міфалагізацыі прыроднай з'явы.

У палякаў «кадук» таксама меў значэнне «чорт», «д'ябал», «хвароба», «няшчасце». Нават калі падаў конь ад сонечнага ўдару, а ў дарозе ці пры працы з жывёламі, як і з людзьмі, гэта здараецца, то гаварылі, што «яго хапіў кадук».

Калі ж ад якой хваробы выміраў цэлы род і не заставалася спадчыннікаў, то кароль Рэчы Паспалітай мог «па праву кадука» ўзяць вымарачны маёнтак у казну, што было зафіксавана як юрыдычная норма.

Тое, што менавіта кадук знішчае людзей, пацвярджаецца вераваннем беларусаў, паводле якога кадук есць жывымі малых дзяцей, якіх яму прыносяць нячысцікі. Нездарма ж гэты тэрмін увайшоў у лаянку, у праклён: «Кадук яго вазьмі». Але з цягам часу вера ў нячысцікаў слабела, сэнс слова зацямняўся, пагрозлівасць праклёнаў знікала. Кадук стаў нястрашным ды і невядомым. Цяпер ён займае сваё месца ў шэрагах іншых міфалагічных істот, вядомых больш з этнаграфічнай літаратуры, такіх, як Начніцы, Падвей, Лясун, Лойма, Кладавік, Ажавені, Цмок, Стрыга, Шэшкі, Хут ды іншых.

**Лія САЛАВЕЙ.**

## Язык як перац

Здаровы, як вол.
Здаровы, як дрот.
Здаровы, як дуб скарбовы.
Здаровы, як зубёр (зубр).
Здаровы, як леў.
Здаровы, як мур.
Здаровы, як рыба.
Здаровы, як цвік.
Здатны, як вол да карэты.
Здоўжылася, як восень.
Здрадны (здрадлівы), як Юда.
Здружаныя, як цыганы.
Зелянейшы за траву (за лісце).
З'еў, як за сябе закінуў.
Зіма (цягнецца доўга) як гад.
Зірнуў, як воўк.
Зіхнула, як знічка.
Зіхнула, як маланка (як бліскавіца).
Злавіў, як вецер у полі.
Злавіў, як маланку (бліскавіцу) за хвост.
Злавіў, як маланку (бліскавіцу) у шапку.
Злаяў, як сабаку.
Злосны, як звер.
Злосны, як сабака.
Злосны, як сонца ў завіруху.
Злосны, як спасаўская муха.
Зляцелі гадочкі, як адна вясна.
Зляцеліся, як сарокі.
Змакрэў, як мыш у кадушцы (у дзежцы).

КАЛАСАВІНЫ-94

# «Бог ля Нёмна ішоў...»




**На фотаздымку** Аляксандра Федарэнчыка дырэктары музея Якуба Коласа ў Менску **Зінаіда Камароўская** (цяперашні) і **Георгій Ткацэвіч** (былы) адкрываюць мемарыяльную дошку.

Словы верша Вольгі Іпатавай — «Бог ля Нёмна ішоў і пачуў, як нягучна ў Акінчыцах плача сабе немаўля», — які яна прачытала ў Цёмных Лядах, гучалі нам, як рэха па-над усім коласавым шляхам, над усімі мясцінамі Панямоння, куды ў гэты дзень завіталі госці.

Найперш у Акінчыцах, дзе 112 гадоў таму ў хаце лесніка Міхала Міцкевіча плакала немаўлятка, якому Бог наканаваў стаць прарокам нашага народа. Тут нас віталі цудоўнай беларускай народнай песняй мясцовы спеўны гурт і дырэктар Акінчыцкага музея Юрка Міцкевіч, унук коласавага брата Юзіка.

Пасля ў Альбуці — «родным куце», якога не толькі Якуб Колас, але і кожны, хто тут пабываў, забыць не зможа. Тут Костусь Міцкевіч, апроч бацькоўскай і Божай любові, зведаў ласку чароўнай панямонскай прыроды. Бог шчодра адарыў гэты куток. І ў «Новай зямлі» мы можам прачытаць паэтычныя радкі пра лес цяністы, які цягнуўся гожаю падковай, пра дубы на берагах Нёмана. А што ўжо казаць пра людзей, што з'явіліся на свет тут, у Прынямонні: «Мае знаёмыя незначны, нічым не слаўны.., людзі простыя, малыя і па-сваему ўдалыя». У паэме з любоўю апісаны іх справы — і простыя, жыццёвыя, але вельмі значныя для існавання сусветнай гармоніі, дзеля суіснавання нашага народа з Космасам.

А паглядзець у Альбуці было што. Там, у сядзібным гумне, наладжана выстава «Рыбалоўства і пчалярства Прынямоння». Рэчы і рыштунак рыбакоў і пчаляроў лашчылі, вабілі вока ды выклікалі любоў і пашану да людзей, што іх зрабілі.

Але найбольшае ўражанне засталося ад Смольні, дзе ў 1912 годзе ўпершыню сустрэліся Якуб Колас і Янка Купала. На гэтай мемарыяльнай сядзібе растуць ліпы, пасаджаныя Коласам, стаіць хата, якую дзядзька Антось будаваў, абсталёўваў, прыладжваў для жыцця асірацелай пасля смерці Міхала сям'і. А дзядзька Антось быў не толькі добры гаспадар, але і майстар адмысловы, мог зрабіць любую рэч і гожа адштукаваць яе. Тут Юрка Міцкевіч, які, дарэчы, нарадзіўся ў гэтай хаце, паказаў нам скураныя пасталы — чукі, як іх завуць у Панямонні, што належалі дзядзьку Антосю, і розны яго сталярскі рыштунак.

Бог ля Нёмна ішоў... І не выпадкова шматлікія даследнікі коласавай творчасці пішуць пра сувязь мінікосмасу Коласа і Сусвету — Вялікага космасу. І гэта не толькі ўяўленне. Творы нашага народнага паэта пабывалі ў космасе на яве — у Смольні захоўваецца мініяцюрная кніжачка коласавых твораў. А побач з ёю словы, напісаныя лётчыкам-касманаўтам Пятром Клімуком: «З хваляваннем наведаў музей народнага паэта Якуба Коласа, вершы якога я з дзяцінства помню і люблю, таму і ў космас узяў кніжачку яго паэзіі. Там, у прасторах Сусвету асаблівым сэнсам напаўняліся бессмяротныя словы «Мой родны кут, як ты мне мілы, Забыць цябе не маю сілы».

У смольненскім музеі мне кінулася ў вочы яшчэ адна кніжка — нямецкі пераклад «Казак жыцця». У Нямеччыне, краіне славутых казачнікаў братоў Грым, ацанілі вартасць гэтага цудоўнага твора Якуба Коласа. А ў нас «Казкі жыцця» амаль невядомыя.

Каласавіны, свята коласавай паэзіі, павінны стаць святам на будзень, калі нашы душы штодня будуць злучацца з коласавай паэзіяй, з коласавай любоўю да людзей, да прыроды. І праз гэта яднанне, праз далучэнне да Боскага свету-Сусвету мы зможам перамагчы зло, якое ўсё яшчэ пануе ў нашых душах.

**З.СІЦЬКО.**

*Прашчуры далі імя*

# Добрая, Уюніца, Паніква...

Апошнімі дзесяцігоддзямі выразна адчуваецца знікненне малых водных аб'ектаў. Але зараз размова пойдзе аб іншай, таксама небяспечнай з'яве, на якую эколагі пакуль не звяртаюць належнай увагі. Хутчэй за рэчкі і вадаёмы знікаюць іх назвы.

Сёння на Беларусі налічваецца да 22 тысяч натуральных вадацёкаў, звыш 4,2 тысячы каналаў і канаваў, больш за 3 тысячы азёр, 1,6 тысячы вадасховішчаў і прудоў; каля 20 працэнтаў тэрыторыі занята балотамі. У той жа час толькі кожны шосты з прыродных водных аб'ектаў захаваў уласнае імя. З балотамі становішча яшчэ горш.

Мы вымушаны заўважыць і другі бок — тэрміналагічнае забруджванне. Яно пазначылася ў мінулым стагоддзі разам з пераходам на новыя формы гаспадарання, разбурэннем ранейшых экасістэм у выніку буйнамаштабнай меліярацыі і прыстасавання рэчак для лесатранспартных патрэб. Падобна таму, як замест натуральных з'явіліся штучныя водныя артэрыі, так і іх гістарычныя назвы пачалі саступаць месца новаўтвораным (у большасці выпадкаў пад уплывам бліжэйшага паселішча). Побач з адзначаным развіваўся і іншы, абумоўлены ўсходнецэнтрызмам чыста суб'ектыўны працэс. Яскравае, наскрозь прасякнутае каланіяльным духам выказванне сярэдзіны XIX стагоддзя належыць паручніку Генеральнага штаба Стрэнгу: «Рака Нёман належыць да ліку другарадных рэк імперыі». Ці варта было чакаць пасля гэтага абачлівых адносін да ручаёў, калі гідранімічная экспансія закранула нават Дзвіну і Буг? Менавіта тады яны набылі ганебны прыдомак «Заходні» ў адпаведнасць погляду з Масквы. Самапавага вымушае ўсвядоміць: Дзвіна і Буг у нас адны (гідранімічных аналагаў пакуль невядома), дык будзем і называць іх адпаведна. Разумныя суседзі не пакрыўдзяцца.

Наогул за апошнія два стагоддзі шмат дзе замест карэнных гідронімаў усталяваліся груваісткія малаінфарматыўныя канструкцыі. Тое самае датычыцца спецыяльнай тэрміналогіі. Прыкладам, у сучаснай навуковай літаратуры існуе некалькі класіфікацый вадацёкаў. Паводле адной, не самай складанай з іх, толькі малыя рэкі ў залежнасці ад плошчы вадазбору (F) і даўжыні (L) падзяляюцца на самыя маленькія, вельмі малыя, самыя малыя і проста малыя. Што і казаць, «зручна». Каб крытыка была стваральнай, параўнаем яе з народным вызначэннем:

$$\text{ручай} < {}^{F\approx 6{,}5\,\text{км}^2}_{L\approx 3{,}5\,\text{км}} < \text{рэчка} < {}^{F\approx 630\,\text{км}^2}_{L\approx 70\,\text{км}} < \text{рака}$$

Традыцыйная класіфікацыя, як бачым, лаканічная і таму трывалая. Яна яшчэ заўважаецца на побытавым узроўні; канкрэтныя лічбы вызначаны пасля апрацоўкі дакументаў XVII-XVIII стагоддзяў на сучасным картаграфічным і гідраметрычным матэрыяле.

Існаванне шматлікіх безназоўных водных аб'ектаў стварыла шэраг практычных нязручнасцей. Каб іх пазбегнуць, у сённяшняй меліярацыйнай дзейнасці замест страчаных гідронімаў усталяваліся вузкапрафесійныя шыфроўкі (ГД, С-3-2-1, Ц-0-1 і да т.п.) ці дублікаты назваў паселішчаў альбо гаспадарак (Карэлічы, калгас «XX партз'езд», Навасельскі і г.д.). У іх доўгім спісе сустракаюцца сапраўдныя «перліны». Недасяжнай вяршыняй бязглуздзіцы застаецца канал Бязводны ў нёманскім басейне. Атрутная хваля запаланіла праекты, справаздачы, водагаспадарчыя даведнікі, але мясцовае насельніцтва захоўвае пакуль на яе імунітэт. Нежыццяздольнасць падобных «твораў» відавочная. Аўтары вышэйзгаданых сурагатаў па ўсім відаць былі прыхільнікамі рэвалюцыйных метадаў.

Гідранімія Беларусі тысячагоддзямі фарміравалася натуральным чынам, пaступова. Самыя архаічныя назвы рэк узніклі пад індаеўрапейскім ці іранскім уплывам. У імёнах водных аб'ектаў найчасцей адлюстравана прыродная адметнасць, пазней гаспадарчая функцыя, часам падзея. Таму яны застаюцца каштоўнейшымі крыніцамі геаграфічнай і культурна-гістарычнай інфармацыі. (У беларускай мове, як вядома, захавалася шмат старажытных слоў, страчаных іншымі славянскімі народамі.)

Лексічны запас кожнага этнасу можна лічыць своеасаблівым адлюстраваннем умоў жыцця. Багацце і разнастайнасць водных аб'ектаў Беларусі непазбежна вымагала адпаведных моўных эквівалентаў, зараз амаль страчаных. Што, прыкладам, засталося для характарыстыкі адных толькі адмоўных форм рэльефу, акрамя агульнавядомага балота? Спецыялісты дададуць дрыгву, твань, багну, яшчэ сёе-тое, а іх жа існавала з улікам дыялектных форм больш за дваццаць. Зварот да глыбінных пластоў дапамагае пазбегнуць уніфікацыі мовы, дае трывалую аснову для распрацоўкі навуковай тэрміналогіі.

Але ўсё гэта аргументы з, так бы мовіць, нематэрыяльнай сферы. Паспрабуем пераканаць і прагматыкаў. Толькі-толькі выйшла з друку энцыклапедыя «Блакітная кніга Беларусі», дзе змешчаны даведачныя дадзеныя больш чым аб пяці тысячах вадацёкаў і вадаёмаў, што, паводле паведамлення анатацыі, маюць назву. А астатнія? Ды іх нібыта не існуе. Як жа можна абараняць тое, што завецца немаведама як? Вось і атрымліваецца: рэчка (азярцо, балотца) губляе імя, затым і сама знікае — прыкладаў процьма. Затым гаспадарнікі скардзяцца на аддаленасць крыніц водазабеспячэння ад спажыўцоў, а ў прамысловых цэнтрах рэчаіснасцю становіцца недахоп якаснай вільгаці.

Не, відаць і сапраўды «спачатку было слова», яго і трэба шукаць. Звесткі аб страчаных на сённяшні дзень гідронімах змешчаны ў большасці старых выданняў, у тым ліку лоцыях, картах і планах, архіўных матэрыялах. Усе яны патрабуюць крытычнага стаўлення з-за магчымых недакладнасцей, сістэматычных памылак, да таго ж даволі часта адсутнічае геаграфічная прывязка. Адзначаны недахоп у большасці выпадкаў можна прадухіліць апрацоўкай інвентароў асобных уладанняў — найбольш каштоўных у разглядаемым сэнсе дакументаў. Для рэканструкцыі гідраніміі патрабуюцца навыкі чытання старажытных дакументаў (і польскамоўных таксама), працы з тапаграфічнай падасновай, але вынікі вартыя намаганняў.

Прыкладам, у інвентарах Гомельскага і Чачэрскага старостваў сярэдзіны XVII — першай палавіны XVIII стагоддзя маюцца звесткі аб 112 рэчках і ручаях, 77 абалонных азёрах, 96 балотах, якія ў сучаснай спецыяльнай літаратуры лічацца безыменнымі. У большасці выпадкаў іх месцазнаходжанне дакладна вызначана. Адноўленыя назвы здольныя задаволіць самы вытанчаны густ: побач з паэтычнымі Добрай, Дзеўкай, Уюніцай, Зубрыным, эпічнымі Кальчугаўкай, Баянскім сустракаюцца пакуль незразумелыя Паніква, Драфан, Кацелон, Опса; гісторыкаў павінны зацікавіць Броннае, Гасціннае, Гародзенка.

Менавіта такі шлях вяртання гідронімаў бачыцца плённым. Захаванне воднага багацця патрабуе найперш яго ведання. Вывучэнне любой рэчы, з'явы пачынаецца з элементарнага — знаёмства з імя.

**Алесь КАРПЕЧАНКА.**

*МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА «БЕЛАРУСКІЯ ІМЁНЫ»*

**Сымон БАРЫС**

# Як у нас клічуць?

## Мужчынскія імёны

*(Працяг. Пачатак у № 9.)*

**Рагвалод** (бел.). Заўважаюцца два карані: раг і валод, што азначае валодаць рагом. Вытв. Валодчык, Валодша. Імя па бацьку – Рагвалодзіч, Рагвалодзічна і Рагвалодавіч, Рагвалодаўна.

**Радаслаў** (слав.) – той, каму спадарожнічае радасць і слава. Вытв. Радзік, Славік. Імяніны кат. 2.03; 8.09. Імя па бацьку – Радаслававіч, Радаславаўна.

**Радамір** (слав.) – імя ўтворана ад слоў «рада» і «мір». Вытв. Мірык, Мірчык. Імя па бацьку – Радаміравіч, Радаміраўна.

**Радзімір** (слав.) – той, хто радзіць мір. Вытв. Радзік, Радзім, Радзімчык. Імя па бацьку – Радзіміравіч, Радзіміраўна.

**Радзім** (слав.) – скарочанае імя ад Радзімір. Вытв.: Радзімчык, Радзімок. Імя па бацьку – Радзіміч, Радзімічна і Радзімавіч, Радзімаўна.

**Радзіслаў** (слав.) – той, хто народзіць славу. Вытв. Радзік, Славік. Імя па бацьку – Радзіславіч, Радзіславічна і Радзіслававіч, Радзіславаўна.

**Радзівон**. Радион (грэч.) – ружовы. Вытв.: Радзівонка, Радзівонік, Радзівончык, Радзівоня; Радзік, Радзісь, Радзька, Радзюк, Радзівойла; Родзік, Родзя, Родзька. Імяніны: 17.01; 23.11. Імя па бацьку – Радзівонавіч, Радзівонаўна.

**Раймон**. Раймонд (са стараням.) паходзіць ад слоў розум і абарона, г.зн. разумная абарона. Вытв.: Раймусь. Імяніны 23.01; 31.08. Імя па бацьку – Раймонавіч, Раймонаўна.

**Раман**. Роман (лац.) – рымскі, рымлянін; магчыма, з грэч. – моцны. Вытв.: Раманік, Раманка, Раманец, Рамашка; Рома, Ромак, Ромась, Ромік, Ромка, Ромачка, Ромчык, Ромусь, Ромця, Ромцік, Раманюк, Рамась, Рамаш. Імяніны: пр. 11, 16.02; 15.05; 5.06; 1, 6, 23.08; 14.10; 1, 10.12; кат. 23, 28.02; 9.08; 18.11. Імя па бацьку – Раманавіч, Раманаўна.

**Расціслаў**. Ростислав (слав.) – той, хто расце слаўным. Вытв.: Росцік, Росцечка, Росця, Роста; Росік, Роська, Рося; Славік, Слаўка, Слава. Імяніны: пр. 27.03. Імя па бацьку – Расціславіч, Расціслаўна і Расціслававіч, Расціславаўна.

**Рамонак** (бел.). Вытв.: Рамончык, Рамонік. Імя па бацьку – Рамонкавіч, Рамонкаўна.




*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Паэтам-наватарам, які не толькі пашырыў тэматычнае кола славенскай (і ўсёй паўднёваславянскай) паэзіі, быў Отан Жупанчыч (1878-1949).

*Отан ЖУПАНЧЫЧ*

Ціха, моўчкі мы
ходзім з сваім шчасцем
між людзей,
і не ведае ніхто,
ад чаго па самы край
сэрца мне напоўніў май.
Знаеш толькі ты,
знаю толькі я,
дый не знаеш ты,
дый не знаю я,
ад чаго ўначы,
ад цябе йдучы,
рукі ўвысь цягну,
поўны ўвесь агню
неспатольнага,
неадольнага.
І чаму тады
я і з чортам рад
гаварыць як брат.
І чаму тады
зоркі ўспыхваюць
нізка нада мной,
як буйныя ў росах ружы
пада мной...
Што такое ноч?
Ноч і смерць сама?
Я не знаю, мілая.
Што такое грэх?
Грэх і каянне?
Я не знаю, мілая.
Знаю толькі гэта шчасце
і ў сваёй душы каханне,
і ўвесь Божы свет прыгожы
навакол,
і буйныя ў росах ружы
пад сабой...

## Падзёнкі

Да вогнішча з усіх бакоў ляцяць
падзёнкі — танец свой каб станцаваць;
кароткі будзе ў скоках іх круць-верць —
адзін працяжнік: нараджэнне — смерць.

Адзін працяжнік, так, адна хвіліна:
імгненна ўзыдзе цвет надзеі хмельнай,
кахання, смутку, слодычы вясельнай, —
адзін працяжнік — і чароўнасць згіне.

У неба паляціць — як Божы ўзятак,
як дым з кадзіла — на душы памін.
А я? Сцякае хвіль маіх астатак,
гляджу назад: жыццё — як дзень адзін.

*Пераклад са славенскай Ніла ГІЛЕВІЧА.*

*СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ*

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,**
**4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.**

**5. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**6. Бог захавае Белую Русь.**
**7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме.**
**8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**9. Праца народа моц і свабоду —**
**10. Годнасць гартуе з году ў год...**
**11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,**
**12. Люд Беларусі — слаўны народ.**

**13. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**14. Бог захавае Белую Русь.**
**15. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,**
**18. Рэкі павольныя, светлыя тут.**
**19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...**
**20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!**

**21. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**22. Бог захавае Белую Русь.**
**23. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**24. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**Ад рэдакцыі.** Паўтараем тэкст верша У. Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Гімн Беларусі. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым. Напамінаем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэксту, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагу і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў. Дапрацоўка тэксту У.Жыгалкі па просьбе чытачоў працягнута да канца года. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!

## Беларус ніколі не ставіў сваё імя наперадзе Бога і Радзімы

Шаноўная рэдакцыя, калі я прачытала асноўны тэкст для Гімна «Жыве Беларусь!», а потым варыянт яго М.Валошчыка і В.Рагонькі, то неадкладна вырашыла напісаць вам. Двум апошнім варыянтам вельмі далёка да дасканалага ва ўсіх адносінах тэксту, пачатак якому даў У.Жыгалка. І довады наконт шляху куды мы ідзём (калі шлях правільны, ён заўсёды адзін і не трэба яго ўдакладняць) і раскрыцця сэнсу сімвала «Пагоні» тут недарэчныя. Узяць, напрыклад, адзін радок з асноўнага тэксту: «Бог захавае Белую Русь». У гэтым радку, можна сказаць, раскрываецца душа нашай нацыі. Беларусь заўсёды была Белай і заўсёды з Богам. Ніякай другой краіне не падойдуць гэтыя радкі. І я не магу прымірыцца з тым, што такія натхнёныя словы будуць вылучаны з Гімна.

А радкі «Бог захавае Белую Русь» куды лепш адлюстроўваюць характар нашых беларусаў, чым такія: «Мы абаронім з Богам Радзіму». Гэта не значыць, што беларус спакойна дазваляе ворагам запаланіць сябе, спадзеючыся на Бога. Гэта значыць, што беларус адрозніваецца перш за ўсё сціпласцю. Ён заўсёды быў патрыётам і абаронцам сваёй краіны і ахвяраваў і жыццём, калі гэта было патрэбна. Але таму і лічыцца ён беларусам з белай, чыстай душой, што ён ніколі не ставіў сваё імя наперадзе імя Бога і Белай Русі. Беларусь заўсёды была мірнай краінай, і таму не трэба падкрэсліваць ваяўнічую настроенасць яе.

**Таццяна СІСНОВІЧ.**
г.Віцебск.

## Што сабе думае камісія?

Складваецца ўражанне, што Камісія па Гімну або некампетэнтная і не ў стане выканаць свае функцыі, або нават выконвае чыйсьці загад не «прапускаць» ніякі другі Гімн, акрамя старога. Калі гэта апошняе, дык хай бы так адразу і сказалі. І не трэба было б займацца палемікай у газетах.

**ДЗЯДАВА Алена Станіславаўна.**
г.Наваградак.

* * *

Прапаную дадаць такія радкі:
Хто мы такія? Белыя русы —
Калісьці забыты, а сёння — народ!
Хай жа гавораць сусветныя вусны:
Ёсць у Еўропе такі асярод!

І яшчэ:
Край наш дзівосны — бярозы ды сосны,
Ёсць што пакінуць нашчадкам сваім.
Сімвал славуты — зубр наш магутны,
Ён застанецца таксама і ім.

**Мікалай Генадзевіч МАЎЧАН.**

* * *

Дарагая рэдакцыя, мне спадабаліся словы прапанаванага тэксту «Жыве Беларусь!». Замяніла б 4-ы радок. Лічу, ён лішні: усе ведаюць колер нашага сцяга. І запісаць яго так: «Еднасць народаў усіх». Лічу, гэта не будзе ўплываць на першы радок прыпеву. Гэта 5-ы радок: бо не загіне ніколі — сімвал свабоды.

У 18-м радку запісаць:
Рэкі павольныя, зялёны гай.
У 20-м радку:
Беражыце, нашчадкі, родны край.
У 3-м радку — Свабоды — магчыма лепш запісаць «волі».

**У.Е.СУХАРАВА, пенсіянерка.**
п.Чырвоны Бераг Жлобінскага раёна.

* * *

Дарагія чытачы і сябры «Нашага слова»! Зноўку звяртаюся з прапановай аб некаторых зменах ва ўзорным тэксце. Раней было ў самым першым варыянце:
...«Наша каханне мілай Радзіме...»
Потым знайшлося лепшае:
...«Наша адданасць вольнай Радзіме...»
Але, на маю думку, лепш было б напісаць:
...«Дык пажадаем мужнай Радзіме»...

Мо, такім чынам тэкст верша будзе падзелены на тры раўнаважныя сэнсавыя часткі:

1. Узнёсла-патрыятычны заклік да адданасці сваёй вольнай Радзіме. 2. Імкненне захаваць у вечнасці менавіта Беларусь мужную. 3. Зварот сённяшняга пакалення да нашчадкаў.

**У. ЖЫГАЛКА.**
г.Менск.

*ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ*



Фота Белінфарма.

*ЧЫТАЛІ?*

## Беларускі рух несупынны

Айчынная палітычная думка здаецца не перанасычана вартаснымі працамі. Насустрач чытацкаму попыту ў гэтай галіне выйшла кніга Ф.Турука «Беларускі рух» (М., 1921, на рускай і беларускай мовах), рэпрынтнае ўзнаўленне якой зроблена нядаўна на картаграфічнай фабрыцы Белгеадэзіі. Шляхетную ініцыятыву беларускіх картографаў пэўна стымулявала знакамітая »Этнаграфічная карта беларускага племені» акад.Я.Карскага, таксама ўзноўленая ў якасці дадатку да кнігі. Праца Турука — гэта лапідарны навукова-папулярны нарыс беларускага вызваленчага руху XIX-першых двух дзесяцігоддзяў XX ст. Прываблівае сваёй багатай гісторыка-інфармацыйнай фактурай, унікальным крыніцазнаўчым матэрыялам, звязаным з драматычнымі калізіямі адраджэння беларускае дзяржаўнасці ў постаці БНР, затым БССР. Кніга і сёння наскрозь актуальная і злабадзённая — адэкватна надзённай вастрыні ўзнятых ёю праблем дзяржаўнай незалежнасці і суверэнітэту Беларусі, палітычнай і сацыяльнай свабоды, культурамоўнай і канфесійнай тоеснасці, урэшце, беларускасці беларусаў.

Выданне можна набыць на Мінскай картаграфічнай фабрыцы, вул.Валадарскага, 3, тэл.26-57-97.

**Аляксей КАЎКА.**

## У свеце красы

Апошнім часам майстры-керамісты Мазырскай фабрыкі мастацкіх вырабаў паспяхова ўкаранілі ў вытворчасць шмат новых распрацовак. Асаблівай адметнасцю вылучаюцца рэчы, выкананыя ў традыцыйным беларускім народным стылі: «Касар», «Несцерка», «Пан», «Яніна», «Валачобнік». Усе яны вырабляюцца ўручную, карыстаюцца нязменным попытам у айчынных і замежных пакупнікоў.



На здымку: За работай выпускніца Беларускага мастацкага вучылішча Таццяна Каршун з сяброўкамі.
Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, Белінфарм.

## І СМЕХ І ГРЭХ

### Пачутае «У Лявона»

* * *

Паліцэйскі спыняе аўтамабіль і кажа вадзіцелю:
— Такую развалюху я нават у сне не назваў бы аўтамабілем.
— Я з гэтым згодзен, — адказвае вадзіцель, — таму ў мяне нават вадзіцельскіх праў няма.

* * *

Надакучлівая наведвальніца, якая часта прыносіла свае графаманскія творы ў рэдакцыю, спытала ў рэдактара:
— Чаму вы патрабуеце, каб мае рэчы былі надрукаваны толькі на адным баку лістка?
— Гэта свайго роду кампраміс, — адказаў рэдактар.
— Кампраміс?
— Калі б мы маглі, мы б папрасілі вас не пісаць і на другім баку!

* * *

— Ці не здаецца вам, — гаворыць пасажыр таксісту, — што трэба было б пачысціць ветравое шкло?
— Пэўна, трэба было б. Ды гэта нічога не дасць. Я забыў дома акуляры.

* * *

Пастаянны наведвальнік правінцыяльнага рэстарана незадаволена гаворыць афіцыянту:
— Як гэта вы маглі пусціць сюды цэлую банду п'яніц?
— Разумееце, сіньёр, — адказвае афіцыянт, — мы ўжо тыдзень не маглі збыць стары гуляш...

## Пароды

*Георгій ЮРЧАНКА*

### Я — не лепшы

*Той паэт з усіх найлепшы,*
*Хто ужо не піша вершы.*
**Яўген ГУЧОК.**

Гучны талент не спатолю —
За сталом ізноў сяджу.
З горкім сорамам і болем
На мінулае гляджу.

Ліпы голле ледзь калышуць,
Нудны шэлест увушшу.
Вершаў іншыя не пішуць,
Я адзін пішу, пішу.

Разважаю ў паняверцы:
Вершароб, што ні кажы, —
Тут трывожанне на сэрцы
І гняценне на душы.

Вечарoваю часінай
Душыць запыт: як мне жыць?
І раскаяння слязіна
Па шчацэ маёй бяжыць.

Як схіляюся над вершам,
Горкі роздум гне ў дугу:
Я пішу, таму найлепшым
Называцца не магу.

### Неадольныя напасці

*Паэт спяваў — а людзі ў крамы йшлі.*
*......................................*
*Ад цяжкіх думак ложак, нібы мост,*
*Ломіцца.*
**Анатоль КУДЛАСЕВІЧ.**

Бусёк у неба ўзвіўся з клеці,
І шэршні стрымана гудуць.
Чытаю вершы. А суседзі
Ў мой бок і вухам не вядуць.

Я пра цябе салодка мрою,
Стагную з верадам старым,
Бо паміж нас чаўнок, як Троя,
А грэбень — проста нібы Рым.

І сэрца зноў стукоча гулка.
Маланні ўсплёск і грому гул.
Сяннік. Падушка. Дошкі. Мулка.
Раіцца горачны няўтул.

Трывожна, тлумна і балесна,
Няволіць горасны бедлам.
Ад цяжкіх думак ложак трэснуў
І развaліўся папалам.

### Пад літпарасонам

*Хвіліны яднання з вадою — спакуса,*
*Блакітная звязка з душэўнай адлігай.*
**Кацярына МЯШКОВА.**

Пясок, асмужаны амаль,
Бязлюддзя чысты смак заўзяты.
І я няспешна ў росчырк хваль
Нясу сваю ніякаватасць.

Густой сучаснасці туман
Вядзе ў зіхотнасць, бы ў маленства.
І праз натхнёнасці паркан
Плыве маё непадабенства.

Дажджыска раптам, як на скон,
З бяздоння вечнасці затупаў.
Ды нада мною парасон
Той міг раскрыў квяцісты купал.

Блюзнерства золкае прынад
Закрыла дрогкай цноты крона...
Я клічу ўсіх купацца пад
Літаратурным парасонам.





### Д.ДЖАРВІС: Выкарыстанне яблычнага воцату ў народнай медыцыне

(Лячэнне захворванняў скуры, варыкозных вен і інш.)

**Апяразваючы лішай.** Прыкладваць да пашкоджанага месца скуры неразбаўлены яблычны воцат чатыры разы на дзень і тры разы ўначы (калі не спіцца). Праз некалькі мінут пасля скарыстання яблычнага воцату сверб і адчуванне смылення скуры знікаюць. Пры лячэнні яблычным воцатам лішаі хутка зажываюць.

**Стрыгучы лішай.** Грыбковае захворванне скуры, валасоў і пазногцяў. Пашкоджаная грыбком гладкая скура мае выгляд рэзка акрэсленых, круглых, злёгку прыпухлых плям, якія лушчацца ў цэнтры, а з краёў акаймаваны пухіркoвымі валікамі. На валасістым участку можна заўважыць абламаныя валаскі і лускавінкі. Бляшкі стрыгучага лішая сведчаць аб запаленні скуры. Запаленне можа быць слабым, з невялікай колькасцю струпоў, і моцным — з пачырваненнем, апуханнем і загнаеннем пашкоджанага ўчастка. Бляшкі стрыгучага лішая часцей з'яўляюцца на патыліцы і на іншых валасістых месцах скуры цела. Хлопчыкі хварэюць часцей за дзяўчынак. Узбуджальнік хваробы перадаецца пры непасрэдным кантакце дзяцей між сабою, а таксама з катамі і сабакамі. Галоўная крыніца распаўсюджання хваробы — рэчы хворых людзей (шапкі, хусткі), крэслы ў тэатрах і транспарце. Спосаб лячэння: прыкладванне неразбаўленага яблычнага воцату да хворых месц шэсць разоў на дзень (апошні раз перад сном). Яблычны воцат — выдатны антысептычны сродак.

**Высыпка на скуры (імпетыга)** — заразнае гнайнічковае скурнае захворванне, якое выклікана стрэптакокамі і стэфілакокамі. Спрыяльны для інфекцыі момант — невялікае пашкоджанне скуры. Перадаецца праз рукі або ручнік. Пачынаецца са з'яўлення чырвонай плямы або прышча велічынёй з гарошыну. Часта з'яўляецца на шчоках або каля носа. Затым высыпка павялічваецца, утвараючы пухіры, якія пачынаюць мокнуць, і хвароба распаўсюджваецца на іншыя ўчасткі цела. У рэшце рэшт высыпка падсыхае, на скуры ўтвараецца жаўтаваты струп, які лёгка адвальваецца.

Асабліва схільныя да гэтай хваробы дзеці. Калі не чапаць хворае месца рукамі, то яна праходзіць за тыдні два. Спосаб лячэння: прыкладванне да хворай скуры неразбаўленага яблычнага воцату шэсць разоў на дзень — з раніцы і да вечара. Пры лячэнні воцатам знікае на працягу двух-чатырох дзён.

**Апёкі.** Апрацоўка апечанай паверхні скуры неразбаўленым воцатам здымае пякучы боль.

**Лячэнне варыкозных вен.** 3 мэтай звужэння іх паліваюць яблычным воцатам з бутэлькі і расціраюць раніцай і вечарам. Прыкладна праз месяц варыкозныя вены пачынаюць сціскацца. Акрамя таго, двойчы ўдзень трэба выпіваць па дзве чайныя лыжкі яблычнага воцату на шклянку гатаванай вады.

**Патлівасць.** Яе можна папярэдзіць, праціраючы скуру цела перад сном яблычным воцатам.

**Мазь для ступняў ног.** Узбіць жаўток аднаго яйка з адной чайнай лыжкай шкіпінару і адной сталовай лыжкай яблычнага воцату. Уціраць сумесь у паверхню скуры.

## Афарызмы

*Мілаван ВІТЭЗАВІЧ*

Еўропа на Балканах пачалася. Ці там і скончыцца?

Калі Балканы станавіліся бочкай пораху, Еўропа выбірала кароткі фіціль.

Сярэдняя Еўропа існуе таму, што ёй межы немагчыма вызначыць!

Скідаючы адзін перад адным капелюшы, англічане разганяюць туман.

Разбурана Берлінская сцяна. Адкрыта Брандэнбургская брама!

Славянская душа — шырокая, калі не ў танку!

Некалі Амерыка таўравала статак. Цяпер перайшла на народы!

Амерыканскі сон здзяйсняецца як сусветны кашмар.

Амерыцы лягчэй памяняць палітычныя сістэмы ў палове свету, як у сябе памяняць метрычную сістэму.

Шпенглер напісаў «Пагібель Захаду». Усходу дзеля гэтага не спатрэбіліся пісьменнікі.

Уваход у XXI стагоддзе: пасля нашай эры!

*Пераклаў з сербскахарвацкай мовы Іван ЧАРОТА.*

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 49

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 7230 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 5.12.1994 г. у 15 гадзін.